
Аліна Ваўранюк → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Беларусы ў Седльцах → 4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3314) Год LXIV Беласток, 17 лістапада 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# У «Васілёчкаў» 55-гадовая гісторыя

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Размова з **Нінай Бялецкай** — шматгадовым арганізацыйным кіраўніком Беларускага хору песні і танца «Васілёчкі», які адзначае 55-годдзе сваёй дзейнасці.



**— 23 лістапада ў спартыўнай зале Пачатковай школы № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім адбудуцца святкаванні юбілею 55-годдзя дзейнасці Беларускага хору песні і танца «Васілёчкі», у якім Вы шмат гадоў з'яўляецеся арганізацыйным кіраўніком. Які парадак юбілейнага мерапрыемства?**

— Дэталёвы парадак святкавання яшчэ дапрацоўваецца. Зараз магу сказаць, што наш хор будзе некалькі разоў выходзіць перад публіку спяваць і танцаваць. Пасля першага нашага выступу запрэзентуецца калектыў з Кобрына, пасля другога — хор «Арляне» з Орлі. Спеў будзем папаўняць фрагментамі беларускіх народных танцаў. У час трэцяга нашага выступу прадбачваем прамовы запрошаных гасцей і ўручэнне ўзнагарод, калі такія будуць. Юбілейны канцэрт закончыць твор «Казацкае вяселле», але парадак мерапрыемства можа яшчэ крыху памяняцца.

**— Я быў на некалькіх папярэдніх юбілеях «Васілёчкаў» і тады канцэртная зала Бельскага дома культуры была бітком набітая. У спартзале «тройкі» будзе яшчэ больш месца для публікі.**

— Арганізуем мерапрыемства ў спартыўнай зале, у якой можа памясціцца многа асоб. Уступ на юбілейны канцэрт свабодны. Карыстаючыся прыхільнасцю масмедыяў, якія згадзіліся ўзяць патранат над нашым мерапрыемствам, праз іх пасрэдніцтва запрашаем на наша свята ўсіх прыхільнікаў нашага хору і любіцеляў беларускіх песень і танцаў. Мы рады, што «Ніва» трымае патранат над дзейнасцю «Васілёчкаў». На яе старонках можна прачытаць пра выступы нашага хору і выказванні харыстаў.

**— «Васілёчкі» былі заснаваны ў палове шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя і ад пачатку былі шматлюдным хорам.**

— У нашага хору доўгая, 55-гадовая гісторыя. Калі ствараліся «Васілёчкі», трэба было пераадолець многа складанасцей. Аднак была вялікая прага да супольнага спявання па-беларуску. Вялікі энтузіязм даў сілу пераадолець усе перашкоды і арганізаваць калектыў, які налічваў каля сарака чалавек. Спявала тады ў нас многа асоб з вёсак, нават з тых, у якія не заязджалі аўтобусы. Харысты, якія памятаюць пачаткі «Васілёчкаў», успаміналі, што тады ў хоры панавала сямейная атмасфера і ўсе хацелі выступаць перад публікай.

**— Вы таксама доўга спяваеце ў «Васілёчках». Як Вам запамяталіся першыя гады ў хоры?**

— Я спяваю ў «Васілёчках» з 1986 года. Харысты прынялі мяне вельмі сардэчна, «Васілёчкі» сталі для мяне другім домам. Я вельмі люблю спяваць і бывала, што сямейныя сустрэчы і асабістыя справы трэба было ладзіць так, каб можна было ўдзельнічаць у рэпетыцыях і выступаць з хорам.

**— Калі Вы сталі арганізацыйным кіраўніком «Васілёчкаў», прыйшлося вырашаць розныя праблемы.**

— Арганізацыйным кіраўніком хору я стала ў 1991 годзе. Частка харыстаў адышла ад «Васілёчкаў» і стварыла калектыў «Маланка». Я прапанавала спяваць у «Васілёчках» царкоўным харыстам, хадзілі мы па дамах і прапанавалі далучыцца да нас асобам, якія любяць спяваць. Дзейнасць хору перш за ўсё патрабуе пастаяннага рашэння многіх арганізацыйных пытанняў і праблем. Гэта займала многа часу, але ўдалыя выступы на сцэне кампенсавалі ўсе складанасці, а поспехі на конкурсах і фестывалях падбадзёрвалі да далейшай працы ў карысць хору.

**— Зараз у «Васілёчках» спявае і танцуе многа асоб.**

— Цяпер у «Васілёчках» выступае трыццаць асоб і гэта цешыць. Хочацца, каб таксама лік маладых харыстаў большаў. Аднак яны часта спыняюць актыўнасць па сямейных прычынах. Бывае, што жанчыны вяртаюцца да нас, калі падрастуць дзеці. Частку нашых харыстаў далучыцца да нас пераканалі старэйшыя харысты, іншыя захапіліся нашымі выступамі на сцэне і самі прыйшлі да нас. Асобы, у якіх ёсць талент, не павінны яго хаваць дома. Добра было б, каб рашыліся паказаць яго іншым людзям. Мы чакаем новых харыстаў розных узростаў.

**— У рэпертуары хору многа беларускіх песень. Развучвалі іх «Васілёчкі» пад кіраўніцтвам многіх мастацкіх кіраўнікоў. Найдаўжэй з хорам працавалі Сяргей Лукашук і цяперашні мастацкі кіраўнік Мікола Фадзін.**

— Усіх нашых мастацкіх кіраўнікоў, якія прыбудуць на наша святкаванне, запросім на сцэну. Займаліся з нашым хорам Аляксандр Лукашук, Сцяпан Копа, Юрый Шурбак, Міхал Артысевіч, Сяргей Лукашук, Аліна Негярэвіч, Уладзімір Сахарчук і Мікола Мяжэнны. Доўга займаецца з намі Мікола Фадзін, які рыхтуе нас да юбілейнага канцэрта.

**— Якіх песень зараз найбольш у рэпертуары хору?**

— Найбольш у нас беларускіх народных песень у апрацоўцы Міколы Фадзіна, частка з якіх гэта песні з Беласточчыны. У нашым рэпертуары ёсць некалькі твораў на польскай мове, якія спяваем падчас выступаў у розных мясцовасцях у Польшчы. Развучылі мы таксама па адной песні на ўкраінскай і рускай мовах. Саставілі ў адзін твор фрагменты яўрэйскіх песень і хочам яго заспяваць у час нашага святкавання.

**— З хорам займаецца харэограф Людміла Фадзіна, якая вучыць вас беларускім народным танцам. Цяпер на сцэне спевам часта спадарожнічаюць танцы.**

чытайце ☞ 11







# Дэпутаты Каліноўскага (3)

Помнік Кастусю Каліноўскаму ў Свіслачы, да якога 27 кастрычніка гэтага года па даўно вызначаным і многа раз пройдзеным маршруце падышлі ўдзельнікі ўрачыстай акцыі па ўшанаванні паўстанцаў і іншых палеглых за Беларусь ваяроў, зззяў у промнях ласкавага сонейка, якое ў гэты дзень вітала прысутных надзвычайнай цеплынёй. У Беларусі гэта адзіны помнік вялікаму кіраўніку паўстання 1863-1864 гадоў. Ёсць Каліноўскаму помнікі ў Польшчы, ёсць у Літве. У любай жа Беларусі кіраўнік паўстанцаў з паўнавартаснага ўшанавання дзяржавай мае толькі шыльду ў Мінску, ды бюст у Свіслачы. Іншыя памятныя знакі, яму, ды другім паўстанцам, паставілі ўдзячныя нашчадкі з пазадзяржаўных структур. І ў Якушоўцы, на радавой сядзібе Каліноўскіх паставілі, і ў іншых месцах, за што неаднаразова заплацілі пераследамі з боку ўлад ды карамі. Ну што ж, нялёгка быць Дэпутатамі Каліноўскага ў Беларусі. Але іх гэта не спыняе. Актывісты традыцыйна прыйшлі ўшанаваць памяць сваіх слаўтых продкаў і ў гэтым годзе.

З Ліды, з Ваўкавыска, з Мінска... Ну і, канешне, з Гародні. І ясна, што з самой Свіслачы. Са знічкамі, лампадамі, кветкамі, сцягамі... З бела-чырвона-белымі сцягамі, вядома ж. Праўда, не ўсе. Некаторыя вырашылі, што ў гэты гарачы перадвыбарчы перыяд (а ў Беларусі ідуць парламенцкія выбары) ім трэба пагуляць у агітацыйную кампанію акурат у гэты дзень. Ну, тут кожны хай вырашае для сябе, што яму сапраўды важна, паспрабаваць стаць дэпутатам парламента, ці быць Дэпутатам Каліноўскага...

Хай сабе хто знойдзе такое апраўданне, што ў гэты дзень яго вельмі прагнулі пабачыць яго выбаршчыкі. Ці хай схаваецца за гэтае апраўданне. Як заўгодна. Але вось хто найбольш прастаяў пад нашымі сцягамі ў цяперашні выбарчы перыяд, як гэта рабіў кіраўнік гарадзенскіх БНФаўцаў Вадзім Саранчукоў, то такія вырашылі, што ў гэты дзень варта набрацца моцы ад сваіх вялікіх продкаў тут, ля іх магіл і помнікаў...

— Гэтае месца будзе заўсёды наведвацца патрыётамі, — выступіць перад прысутнымі кіраўнік рэспубліканскага БНФ Аляксей Янукевіч.

І сапраўды, ужо многа год запар яно не пустуе ў апошнія выходныя кастрычніка. Ды і ў іншы час сюды з'язджаюцца тыя, каму неабыякавая ні гісторыя беларускага народа, ні яго будучыня. Большасць апазіцыйных кандыдатаў перад прэзідэнцкімі выбарамі лічылі сваім абавязкам выказаць сваё бачанне будучыні Беларусі менавіта ля гэтых помнікаў. Праўдзівыя сюды не сунуліся... У кожнага свае ідэалы...

Прысутныя ўскладаюць кветкі, запальваюць лампады, знічкі, гавораць прамовы. З гонарам і павагай перасоўваюцца ад помніка Кастусю Каліноўскаму да манумента Рамуальду Траўгуту. Адтуль да будынка колішняй Свіслацкай гімназіі, дзе былі навучэнцамі многія нашы славутыя земляки. Паўсюдна гучыць „Жыве Беларусь!!!". Свіслач прывыкла да гэтага воклічу. Ды і ўся Беларусь ужо прывыкла.

А ў гэты час за імпрэзай пільна назіраюць не толькі пераапранутыя ў цывільнае сілавікі, але і помнікі Леніну і Сталіну, якім улады знайшлі месца ў цэнтры Свіслачы, паміж бюстам Кастусю Каліноўскаму і манументам Рамуальду Траўгуту. У гэтых гістарычных персанажаў няма ў Свіслачы радавой сядзібы, як у Каліноўскіх. Няма на свіслацкіх могілках іх сваякоў. Ды і пра існаванне такога месца яны наўрад ці ведалі калі. Але ж улады ім помнікі тут прыстроілі. Цікавыя ў нас сёння ўлады...

Яны на дзень кастрычніцкай рэвалюцыі выходныя нават зрабілі. Каб народ прыпіхнуць хоць неяк да помнікаў Леніну. А вось да Каліноўскага людзі едуць самі. І Каліноўскі гэта бачыць, і Ленін, і ўлады, і народ... Увесь свет бачыць...

Яшчэ раз гучнае: „Жыве Беларусь!!!", і прысутныя зноў рассаджваюцца па транспарце, на якім прыехалі ў Свіслач. Наступны прыпынак вёска Якушоўка, дзе мясцовыя актывісты сваімі сіламі і сродкамі закансервавалі як умелі падмуркі сядзібы Каліноўскіх, дзе жылі нейкі час з сям'ёй Кастусь і Віктар Каліноўскія. І дзе стаіць высокі, аздоблены металам крыж Еўфрасінні Полацкай у гонар беларускім ваярам.

Там будзе перадапошняя, самая натхняльная і эмацыйная частка гэтай традыцыйнай імпрэзы. А Свіслач праводзіць гасцей сэрцам восенськіх колераў, і нейкай урачыстасцю, гонарам і цішынёй, што цалкам адпавядае велічы моманту...

**Віктар САЗОНАЎ**

# Усё мне баліць



Свет, у якім мы жывем, здаецца, усё больш і больш становіцца віртуальным бытам. Штосьці выходзіць з яго і праз імгненне знікае. Затым узнікае зноў, але ў іншай форме, у іншай перспектыве. Як марская хваля — ніколі не вызначаная па месцы, часе і форме — ніколі не аднолькавая, таму кожны раз іншая, новая, невядомая... Як, скажам, Мексіка, якая зноў з'явілася як рэальны быт у... сусветных СМІ. На гэты раз з-за выпадковага забойства нявіннай сям'і мармонаў. Сусветная грамадская думка даведалася такім чынам, што Мексіка — гэта краіна жорсткіх нарка-мафійных разборак, поўная гвалту і беззаконня. Аднак нікога не хвалюе, што нармальныя людзі жывуць там са сваімі штодзённымі клопатамі і праблемамі. Але і маюць свае радасці і поспехі. Да гэтага забойства Мексіка таксама была, але як бы яе зусім не было. Калі няма ніякіх падзей — вайны, катастроф ці нават дурной заявы мясцовага палітыка — значыць, у СМІ не ўзнікае ажыятаж, таму тое не існуе. Што ёсць штосьці такое, як Афрыка, ніхто не сумняваецца. Толькі для большасці Афрыка — толькі геаграфічнае паняцце. Ну, яшчэ негры і жырафы. Наўрад ці хто звязвае яе з Суданам ці Йеменам, краінамі, якія на працягу многіх гадоў сплываюць крывёй ад войнаў, генацыду і голаду. І напэўна, толькі нешматлікія ведаюць, што самая маленькая афрыканская краіна — Гамбія, радзіма славутага воіна Кунта Кінтэ. Толькі ў гэтых двух кантэкстах усё яшчэ пішуць аб Гамбіі. Гэтак жа, як пра селебрыці Ёлю Рутовіч з яе ружовым конікам.

Некалькі дзён таму адзін чытач «Нівы» з трывогай спытаў мяне, чаму я апошнім часам не пішу пра Беларусь. Ці можа яно спыніла сваё існаванне? — скончыў ён пытанне іроніяй. Так, яна існуе! Неўзабаве там пройдуць парламенцкія выбары, і частка грамадства, здаецца, нават аддае ім вялікае значэнне, успрымаючы іх як дэмакратычныя паводзіны беларускай дзяржаўнасці. Калі б прэзідэнт Лукашэнка меў на ўвазе гэтую падзею з належным сабе форсам слана ў краме з фарфорам, то тады б ва ўсім свеце гаварылася толькі пра Беларусь! Я стаўляю ў заклад сытны кавал гайнаўскага «царскага» сыру за мазок плаўленага сырка са смакам цвілых шкарпэтак, што не знойдзецца ніводнага жыхара Гамбіі, які ведае пра яе існаванне. Пра прэзідэнта Лукашэнку, які ва ўсім свеце вядомы сваімі дэвізамі, хто ведае... Мала ў чым немагчыма сумнявацца. Можа, толькі ў падатках і смерці. У гэтым плане не падводзіць нават псіхалагічны альбо фізічны боль, што найбольш яскрава даказвае наша сапраўднае існаванне тут і зараз. Аднак кожны раз гэта ўласны, суб'ектыўны досвед. Кожны з нас адчувае боль у самых глыбокіх катакомбах нашых асабістых адчуванняў. Нават калі вы адважыцеся спусціцца ў чыесьці катакомбы са свечкай спагады, мы ўбачым толькі яго платанічныя цені. Цікава, што нават калі боль тычыцца нас, калі ён спыняецца, мы памятаем, што ён страшэнна нас турбаваў, але ўжо досыць. Боль у часе ператвараецца ў нашай свядомасці ў канцэптуальную абалонку, ачышчаную ад першапачатковага зместу. Па сутнасці, гэты факт становіцца вобласцю абстракцыі. Віртуальным быццём. Віртуальны быт, згодна са слоўнікам PWN, у першым сэнсе — гэта тое, што было створана ў чалавечай свядомасці, але, верагодна, існуе ў рэчаіснасці альбо можа існаваць; у другім — тое, што было створана на экране камп'ютара, тэлевізара, але настолькі рэалістычна, што здаецца быць рэальным. Я падкрэсліваю тут тую частку слоўнікавага азначэння, якая выражана ў фармулёўцы «верагодна, існуе ў рэальнасці». Магчыма! Напэўна, кожная канцэптуальная абалонка можа быць напоўнена новым зместам. У свой час мяне здзівіў адзін юнак пытаннем, чаму гэтую вайну называюць Другой сусветнай вайной... а яна ж вялася ў Польшчы. Sic! Такія веды ён узяў са школы і камп'ютарных гульняў. У такім рэжыме памяці «выклятыя жаўнеры» на чале з «Бурым» неўзабаве выштурхнуць з нацыянальнага пантэона гераічных маладзёнаў з атрада АК «Зоська», а Каміль Бачынскі акажацца паэтам «другога сорту». Магчыма! Я параўнаў асабісты досвед болю да глыбокіх катакомбаў, у якіх ён адчуваецца ў абсалютнай адзіноце. І ў стане непраходнай цемры. На гэтым этапе я не пакідаю без увагі яго дэманічных і ментальных канатацый. Я засяроджваюся толькі на яго фізічным аспекце. У непаглядняй цемры катакомбаў мы залежым толькі ад сябе.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Час памяці (2)

Тыдзень назад у гэтым месцы пісаў я, між іншым, пра магчымыя паслядоўнасці перайменавання раднымі Беластока вуліцы Зыгмунта Шэндзеляжа „Лупашкі" на вуліцу Падляшскую. Крык, абурэнне, пратэсты, страшанне радных і прыхільнікаў перайменавання пракаціліся не толькі па Падляшскай зямлі, але і па ўсёй Польшчы. Зразумела, што наймацней у гэтай справе выказваліся верхаводы і пешкі з Інстытута нацыянальнай памяці. У такой сітуацыі «натуральнай» паслядоўнасцю была рэакцыя падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага, які аспрэчыў пастанову радных і забараніў увесці яе ў жыццё да канчатковага ім разгляду. Аргументацыю ваяводы чытайце на чацвёртай старонцы.

У мінулы панядзелак вечарам на антэне беластоцкага аддзела Польскага тэлебачання прайшла дыскусія з удзелам прафесара Алега Латышонка — старшыні Беларускага гістарычнага таварыства, Пётра Лапінскага з бюро па ўвекавечанні змагання і пакутніцтва ІНП у Беластоку, Агнешкі Жашэўскай — беластоцкай раднай з Права і справядлівасці, якая адначасна старшынёю Рэгіянальнай секцыі асветы і выхавання незалежнага прафсаюза „Салідарнасць". Адно крэсла пуставала, бо запрашэння не прынялі ні радныя Форуму меншасцей Падляшша, якія былі ініцыятарамі змены назвы вуліцы, ні радныя клуба Грамадзянскай платформы, якія падтрымалі ініцыятыву і вынікам галасавання 13:12 надалі ход зменам. Вялікая шкада, што не з'явіліся яны ў студыі, каб сваёй прысутнасцю і аргументацыяй уступіць у палітычна-гістарычную дуэль. У мінулым тыдні не хапіла мне месца, каб напісаць, што, на жаль, гістарычная аргументацыя аўтараў змены назвы вуліцы не была акуратна апрацаванай. Шкада, што для яе ініцыятараў не хапіла часу, каб абгрунтаванне так ідэалагічна спрэчных змен пракансультаваць, напрыклад, з Беларускім гістарычным таварыствам.

У такой сітуацыі ўвесь удар з боку апалагетаў дзеяння маёра „Лупашкі" ў дачыненні да мірнага літоўскага і беларускага насельніцтва прыняў на сябе прафесар Алег Латышонак. Не навіна яму прымаць удзел у навуковых і медыйных дыскусіях наконт ацэнкі „выклятых жаўнераў". Хаця народная прымаўка вяшчае, што „адзін у полі не воін", то трэба адразу сказаць, што спакойнымі, але рашучымі аргументамі ўдалося яму крыху прытушыць аднабаковыя, надта эмацыйныя і ўра-патрыятычныя выказванні сваіх сапернікаў пра трагізм грамадзянскай вайны на Віленшчыне і Беласточчыне ў час Другой сусветнай вайны і ў першых гадах пасля яе заканчэння.

Міжнацыянальныя, рэлігійныя ці ідэалагічныя канфлікты раз занесеныя ў гісторыю ўжо назаўсёды будуць мець двухбаковае бачанне. Калі пры тым мэтанакіравана гінуць нявінныя жанчыны і дзеці, то тлумачэнні пра гістарычны аб'ектывізм ходу такіх здарэнняў не могуць быць нікім апраўданымі. Зададзеныя раны і крыўды, калі не будуць ачышчанымі і прамытымі праўдай і пакаяннем, могуць толькі прытухнуць, каб потым разліцца і ўспыхнуць з яшчэ большай сілай.

Папраўдзе гэтая праблема — неад'емная частка ўсёй еўрапейскай гісторыі перыяду дваццатага стагоддзя. У гэтым месцы прыгадайма прынамсі, які разлад і палітычныя эмоцыі выклікае сёння ў Іспаніі асоба былога дыктатара генерала Франсіска Франка, які ўладарыў у гэтай краіне ў 1936-1975 гадах. Пасля смерці быў ён пахаваны ў нацыянальным маўзалеі «Даліна загінулых» пад Мадрыдам, у аграмаднай базіліцы пад каменным крыжам вышынёй у 152 метры. Пахаваны там каля сарака тысяч парэштказ ахвяр грамадзянскай вайны — спачатку правых, а потым рэспубліканцаў, калі былі яны каталікамі. У 2009 годзе маўзалей быў закрыты сацыялістычным урадам Хасэ Сапатэра. У верасні гэтага года Вярхоўны суд Іспаніі даў згоду чарговаму, меншаснаму, сацыялістычнаму ураду Педра Санчаса на эксгумацыю і перанос парэштказ генерала Франка з нацыянальнага маўзалея на могілкі ў Мадрыдзе і пахаванне ў сямейнай кватэры. Перапахаванне прайшло 24 кастрычніка 2019 года без аніякіх дзяржаўных цырымоній. Цела было перавезена верталётам, каб пазбегнуць дарожных блакад з боку прыхільнікаў пакойніка.

Іспанская грамадзянская вайна з міжнародным кантынгентам у 1936-1939 гадах па сёння раз'ядноўвае іспанцаў і іх дзяржаву. Цяперашняя праблема незалежнасці для Барселоны як сталіцы краіны каталонцаў гэта не толькі гістарычныя падзеі мінулых стагоддзяў, але і палітычная спадчына нацыянальнай палітыкі іспанскага дыктатара.

**Яўген ВАПА**

## Настаўнікі роднай мовы

# Ой!

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Гэта было натуральнай справай, калі я пачала працу ў бельскай «тройцы». Хто ведаў мову і быў настаўнікам класаў 1-3, той выкладаў у сваім класе беларускую мову. А на працу ў Беластоку выбралі мяне бацькі. І за гэта ім вялікі дзякуй.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Цяжка сказаць. Цяпер на курсах у Менску сустрэла незвычайную настаўніцу. Яна працуе ў полацкай гімназіі.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Тэарэтычна супрацоўнічаю з кожнай/кожным хто толькі хоча. Цяжка гаварыць пра пастаяннае супрацоўніцтва. Гэта Анна Кандрацюк са школы ў Нараўцы і Таня Андрацкая (Бабікі, Шудзялава) і Аня Бабік з нашага садка.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Безумоўна, АБ-БА.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Экскурсіі ў музеі, тэатр, мастацкія заняткі, тэатральныя гурткі, летнікі, Конкурс беларускай песні ў нашай школе, Дыскусійны клуб АБ-Бы, музычныя заняткі — Спеўныя сходы (пачынаю ў гэтым навучальным годзе). Былі яшчэ: «ВКЛ — наша супольная спадчына», «Баламуты», «25 АБ-БА Аркестр», «Падляшскія хронікі» — кніжкі і спектакль.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс беларускай песні ў нашай школе, «Трохгалоссе», прадметны конкурс.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так.

**— Ці навучанне па прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Козыр.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Не, таму арганізую летнікі.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— О, цяжка палічыць. Можа пад трыццаць.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Дапасоўваю іх як толькі магу.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Лемантар»!



Аліна Ваўранюк з мужам Міколам

**Аліна ВАЎРАНЮК**, дачка настаўнікаў Ларысы і Сцяпана Бурылаў. Шчаслівае дзяцінства правяла ў школе ў вёсцы Малінніка. Спявала ў школьным хоры і на конкурсах беларускай і савецкай песні. Пераехала з бацькамі, бабуляй і сястрой у Бельск-Падляшскі і патрапіла ў „беларускі" ліцэй. Там спявала з «Дзявочымі ноткамі», дэкламавала вершы і вышывала з Зінаідай Дэмянюк. Пасля ліцэя апынулася ў Беластоку, дзе скончыла ўніверсітэт і атрымала званне магістра пачатковага навучання. У той час актыўна дзейнічала на Радыё Акадэра і менш актыўна ў тэатры «Кляпс». У 1988 г. вярнулася ў Бельск і стала настаўніцай класаў 1-3 у Пачатковай школе № 3. Пасябравала з Марылькай Базылюк і з басаўцамі, хадзіла на рэйды. Спявала ў «Маланцы». Стала шчаслівай жонкай Міколы. Нарадзіла Аляксандра і Ніну. Пачала працу настаўніцы ў Пачатковай школе № 4 імя Сібіракоў у Беластоку. Працавала метадысткай пачатковага навучання. Працавала таксама ў Гімназіі № 7 у Беластоку. Працуючы ў пачатковай школе і гімназіі, пачала чарговы раз навуку ў Беластоцкім універсітэце і атрымала званне магістра беларускай філалогіі (магістарская праца пра творчасць Анатоля Сыса).

Звыш 20 год вядзе тэатральныя гурткі, майстар-класы для вучняў і настаўнікаў, этнаграфічныя летнікі. Аўтарка адукацыйнага пакета да класаў 1-3: «Сцэнарыі заняткаў па беларускай мове для 1 класа пачатковай школы», «Лемантар. Падручнік па беларускай мове для 2 класа пачатковай школы», «Кругагод. Падручнік па беларускай мове для 3 класа пачатковай школы». Неўзабаве настаўнікі атрымаюць новае выданне гэтых дапаможнікаў і зусім новы «Сшытак практыкаванняў па беларускай мове для 2 класа». Аўтарка дзвюх настольных гульняў і паказнога алфавіта. Рэдагуе часопіс «Беларускі настаўнік». Час ад часу займаецца перакладамі на беларускую і польскую мовы. Пераклала, між іншым, «Народны альбом», вершы сучасных беларускіх паэтаў (Юры Гумянюк, Адам Глобус, Юрась Пацюпа), песні Агнешкі Асецкай, спектаклі для дзяцей. Адна з заснавальніц і шматгадовая намесніца старшыні Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Суаўтарка і каардынатарка многіх адукацыйных праектаў: «Вялікае княства Літоўскае — наша супольная спадчына», Летнія этнаграфічныя майстар-класы „Я нарадзіўся тут" (з 2004 г. па сёння), «Падляшскія хронікі» (сцэнарыстка і рэжысёрка спектакля „Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша"), «25 АБ-БА Аркестр»...

Гуляла ў тэатр на Сустрэчах «Зоркі».

За сваю працу атрымала, між іншым, Узнагароду Міністра адукацыі, Ганаровую адзнаку „Заслужаны для польскай культуры", Срэбны крыж заслугі, Узнагароду старшыні рады горада Беластока для настаўнікаў-аніматараў культуры (як адзіная ў гісторыі два разы!).

Актыўна праводзіць час. Палюбіла ровар. Любіць хадзіць у кіно, на канцэрты, літаратурныя сустрэчы. Кахае сваю сям'ю, музыку, кніжкі, добры тэатр, вышыўку, падарожжы. Была на кожным БАСовішчы. Ганарыцца сваімі дзяцьмі і вучнямі. Падабаецца ёй настаўніцкая праца.

У гэтым годзе была панэлісткай на «Трыялогах», а само запрашэнне было для яе нечаканай і прыемнай неспадзяванкай. Упершыню выступіла таксама ў ролі гіда-экскурсавода па выставах — у галерэі «Арсенал» распавядала (па-беларуску) пра выставы «Гісторыі пра старасць» і «Да сустрэчы пасля рэвалюцыі. Баўгаус».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Святлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін, Міхась Андрасюк.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Цяпер гартаю новыя дзіцячыя і іх каля дзесяці. Вершы з кнігі Марыі Мартысевіч „Сарматыя", Анхелы Руіс „Колер крылаў". Збіраюся прачытаць „Альбом для цёткі Марылі" Марыі Вайцяшонак і новыя кніжкі Арлова.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так.

**— Якая, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Святкаванне Дня Волі, «БАСовішча», «Трыялогі» ў Крынках.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Заўсёды!

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Хіба не.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Пасіўныя і лянівыя настаўнікі, бацькі.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Для мяне яны ўсе вядомыя. Частка з іх актыўныя дзеячы БАСу, і іх вельмі многа. Шмат каго бачу на цікавых мерапрыемствах як валанцёраў. Яны канчаюць навуку, дзейнічаюць у студэнцкіх арганізацыях, працуюць, ездзяць па свеце, ведаюць шмат моў, ангажуюцца ў цікавыя праекты, пазнаюць свет і людзей. А з такіх „селебрытаў", то лічу сваёй вучаніцай Асю Троц і яна так кажа пра мяне. Эля Зайко таксама „пайшла ў акцёры".

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так. Амаль кожны год узнагарода дырэктара школы з нагоды Дня настаўніка. Узнагароды грашовыя: Міністра адукацыі, Прэзідэнта горада Беластока, як адзіная двойчы атрымала ўзнагароду для настаўніка-аніматара культуры ад Рады горада Беластока. Ганаровыя: Медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі, Срэбны крыж заслугі, Адзнака «Заслужаны для польскай культуры», падзякі ад дзяцей і бацькоў, вершы ад Віктара Шведа, Адзнака „ь" і пячатка „Супер настаўніца — Аліна Ваўранюк" ад вучняў.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Вучні.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Букет бел-чырвона-белых кветак на Дзень Волі і віншаванні Зянона Пазьняка пасля спектакля „Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша", мае падручнікі.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Ой!

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

Białystok, 07 listopada 2019 r.

**WOJEWODA PODLASKI**
**15-213 Białystok, ul. Mickiewicza 3**
**NK-II.4131.144.2019.AK**

**Rada Miasta Białystok**

**Zawiadomienie o wszczęciu postępowania**

Na podstawie art. 91 ust. 2 i 5 ustawy z dnia 8 marca 1990 r. o samorządzie gminnym (Dz.U. z 2019 r. poz. 506 z późn. zm.) w związku z art. 61 § 4 ustawy z dnia 14 czerwca 1960 r. Kodeks postępowania administracyjnego (Dz.U. z 2018 r. poz. 2096 z późn. zm.),

**zawiadamiam**

o wszczęciu postępowania nadzorczego w sprawie stwierdzenia nieważności uchwały Rady Miasta Białystok Nr XV/243/19 z dnia 28 października 2019 r. w sprawie nadania nazwy ulicy, położonej w Białymstoku na osiedlach: nr 11 — Piasta I i nr 13 — Skorupy.

**Uzasadnienie**

Analiza uzasadnienia podjętej uchwały daje podstawy do stwierdzenia istotnego naruszenia zapisów Konstytucji Rzeczypospolitej Polskiej tj. art. 7 stanowiącego, że organy władzy publicznej działają na podstawie i w granicach prawa, art. 2 wskazującego na zasady demokratycznego państwa prawnego oraz zasadę zaufania do Państwa oraz art. 19 Konstytucji RP, zgodnie z którym Rzeczpospolita Polska specjalną opieką otacza weteranów walk o niepodległość.

Obowiązek działania zgodnego z prawem, w połączeniu z zasadą zaufania, stwarza po stronie organów władzy publicznej obowiązek uzasadniania swoich rozstrzygnięć, które to uzasadnienia powinny być sporządzanie ze szczególną starannością. Organ stanowiący podejmując uchwałę musi w jej uzasadnieniu wykazać, że działa w granicach prawa, z czego wynika że jego rozstrzygnięcie nie może być arbitralne czy też oparte na niewyjaśnionych podstawach faktycznych.

Natomiast uzasadnienie uchwały, w zakresie w jakim dokonano oceny działań mjr. Zygmunta Szendzielarza ps. „Łupaszka", nie jest w pełni zgodne z potwierdzonymi faktami.

Ponadto neguje ustalenia kompetentnych instytucji państwowych m.in. Instytutu Pamięci Narodowej.

Podjęcie uchwały w oparciu o niepotwierdzone i jednocześnie krzywdzące zarzuty, stoi również w wyraźnej sprzeczności z zapisami ustawy z dnia 24 stycznia 1991 r. o kombatantach oraz niektórych osobach będących ofiarami represji wojennych i okresu powojennego (Dz. U. z 2018 r. poz. 276 z późn. zm.), która w preambule stanowi, że kombatantom oraz ofiarom represji należny jest głęboki szacunek wszystkich rodaków oraz szczególna troska i opieka ze strony instytucji państwowych, samorządów terytorialnych i organizacji społecznych.

**Jednocześnie, informuję o wstrzymaniu wykonania uchwały.**

Zmiana nazwy ulicy wywiera znaczny i bezpośredni wpływ na powstanie nowych obowiązków prawnych, tj. konieczność dokonania zmian we wszystkich dokumentach zawierających adres zamieszkania oraz obowiązek zawiadamiania o zmianie adresu wszystkich istotnych urzędów i instytucji publicznych. W ocenie organu nadzoru kwestionowana uchwała dotknięta jest wadą uzasadniającą stwierdzenie jej nieważności w późniejszym czasie — z tego względu jej wykonywanie wywołać może ujemne skutki finansowe.

Z up. WOJEWODY PODLASKIEGO
**Zofia Silwonik**
Dyrektor Wydziału Nadzoru i Kontroli

# Беларуская культура зачаравала сядльчан

У Хлевісках каля Седльцаў адбыўся «Вечар з беларускай культурай». У гэтых ваколіцах гэта даволі ўнікальная падзея. Раней такога роду мерапрыемства прайшло ў чэрвені 2008 года ў Падляшскай акадэміі (у цяперашні час Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах). Пра выразна вялікую зацікаўленасць беларускай культурай сведчыла вялікая колькасць наведвальнікаў у Доме творчай працы «Рэймантоўка», у якім праходзіў беларускі вечар. Адкрыў ён шэраг сустрэч пад лозунгам «Давайце лепш пазнаёмімся...», ініцыяваных Сядлецкім грамадска-культурным аб'яднаннем «Брама». Старшыня гэтай арганізацыі Збігнеў Півоньскі адзначыў вялікую запатрабаванасць на такога роду сустрэчы: «Сёння ў нашым атачэнні часта сутыкаемся з неразуменнем іншасці. Гэта часта прыводзіць да агрэсіі. Лягчэй сустрэць такія паводзіны, калі ты не ведаеш адзін аднаго. Пасля знаёмства адзін з адным часта прыходзім да высновы, што ён выдатны чалавек ці яны цудоўныя людзі. Культура — выдатны носьбіт узаемнага пазнання. Менавіта таму наша аб'яднанне вырашыла арганізаваць шэраг сустрэч, прысвечаных розным нацыям. З вялікім задавальненнем мы пачалі з беларусамі, бо яны нашы самыя блізкія суседзі».

Даклад «Шматкультурнае Падляшша — беларусы ў Польшчы» зачытаў доктар габілітаваны Адам Бобрык, прафесар Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах. Звярнуў ён увагу, што Падляшша — цяпер самы большы шматкультурны рэгіён Польшчы. Жывуць там кампактна беларусы, літоўцы, украінцы, расіяне і прадстаўнікі многіх іншых нацый. Вынікі апошняга перапісу насельніцтва сведчаць, што ў нашай краіне жыве 44 тысячы беларусаў, у тым ліку 38 тысяч у Падляшскім ваяводстве. У чатырох падляшскіх гмінах беларусы складаюць больш за 50% насельніцтва. У пяці гмінах беларуская мова мае статус дапаможнай, а ў адной усталяваны двухмоўныя дарожныя ўказальнікі — на польскай і беларускай мовах. Працуе таксама сетка школ з дадатковым навучаннем беларускай мове, дзейнічае шмат самадзейных калектываў і няўрадавых арганізацый. Гэта паказвае не толькі прысутнасць і актыўнасць беларускай супольнасці, але таксама павышае турыстычную прывабнасць рэгіёна. Польшча традыцыйна была шматкультурнай краінай, моцнай сваёй разнароднасцю. Сёння гэтая разнастайнасць у паўсядзённай жыццёвай практыцы назіраецца на Падляшшы. У той жа час, аднак, усё больш узмацняецца працэс асіміляцыі, якія выяўляецца ў тым, што толькі 37% беларусаў назвалі беларускую мову роднай, — адзначыў Адам Бобрык.

Сустрэчу ўпрыгожыла выступленне фальклорнай студыі «Жэмэрва». Выканаўцы не толькі спявалі традыцыйныя беларускія песні і выконвалі беларускія танцы, але і прыцягвалі гледачоў да супольнай забавы. Спецыфіку беларускага фальклору наблізіў Дарафей Фіёнік, старшыня Музея Малой айчыны ў Студзіводах, які заявіў: «Не першы раз мне асабіста і членам студыі фальклору „Жэмэрва" прыйшлося выступаць на самай крайняй мяжы былога Вялікага Княства Літоўскага. Год таму былі мы ў Венграве, а ў чэрвені гэтага года на замку ў Ліве (ужо на Мазовіі). Усюды прымалі нас цудоўна, але такой цеплыні, якая ахінула нас у «Рэймантоўцы», яшчэ нідзе не адчулі. Хацелася быць з гэтымі людзьмі доўга, расказваць пра нас — падляшскіх беларусаў, спяваць і запрашаць да танцаў. У Таварыстве «Брама» людзі вельмі адкрытыя. Яны аднаўляюць памяць пра княжну Аляксандру Агінскую з Чартырыйскіх, якая праславіла Седльцы сваімі гаспадарчымі і асветнымі дзеяннямі. Яна ж ураджэнка беларускага Воўчына. А Седльцы, дзякуючы Агінскім, маюць у сваім гербе Пагоню» — заўважыў Дарафей Фіёнік.







Падчас беларускага вечара былі адкрыты тры асобныя выставы. Першая экспанавала карціны беларускіх жывапісцаў, якія сабраў Яцэк Галамбеўскі. На ёй былі прадстаўлены творы Пятра Данелія, Элеаноры Бубашкіны, Пятра Свентахоўскага, Валянціны Свентахоўскай, Уладзіміра Тоўсціка, Міколы Маеўскага, Іосіфа Крупскага і расіяніна Андрэя Шырокава. На другой выставе прадстаўлены карціны Анатоля Краўчука з Бельска-Падляшскага. Акрамя таго, адбыўся вернісаж выставы фотаздымкаў на адкрытым паветры, зробленых у Беларусі творчай групай «FOTOGRAM» з Седльцаў. Анджэй Руціньскі, Яцэк Мазурэк, Гжэгаж Дамброўскі, Лех Каліноўскі, Лена Скарус, Агнешка Круль, Аляксандр Скумс, Марэк Зубік, Адам Красускі і Артур Руціньскі прадставілі свае фотаздымкі. Напрыканцы сустрэчы ўсе жадаючыя змаглі паспрабаваць стравы беларускай кухні.

Дырэктар «Рэймантоўкі» Марэк Блашчык сказаў «Ніве», што на працягу года ў Доме творчай працы праходзяць дзясяткі мастацкіх мерапрыемстваў. Гэтае, аднак, мела асаблівы характар. Падкрэсліла яго як прывабнасць беларускай культуры, так і цікавасць да ёй жыхароў Сядлецкай зямлі. У той час доктар Беата Галэк, намеснік дэкана гуманітарнага факультэта ПГУ адзначыла, што сустрэча з беларускай культурай аказалася цікавым падарожжам да нашага агульнага польска-беларускага мінулага, паказваючы перспектыву будучыні. Народная музыка, традыцыі і беларуская кухня зачаравалі публіку.

У параўнанні з Падляшскім ваяводствам мала беларусаў жыве ў горадзе Седльцы і Сядлецкім павеце. У той жа час заўважаецца захапленне мясцовага насельніцтва беларускай культурай. Тут праходзіць мноства мастацкіх мерапрыемстваў з удзелам беларускіх артыстаў, якія наведваюць многія гледачы. Седльцы супрацоўнічаюць з Ваўкавыскім раёнам, а Сядлецкі павет — з Брэстам. З іншага боку, што звяртае асаблівую ўвагу, Гарадская публічная бібліятэка ў Седльцах выпісвае штотыднёвік «Ніва», а як ёсць газета, ёсць і чытачы. Будзем спадзявацца, што «Беларускія вечары» будуць праходзіць часцей, і дзякуючы гэтаму ідэя сустрэч «Давайце лепш пазнаёмімся...» будзе рэалізавана, таму што гэта ўсім нам карысна.

**Івона БОБРЫК**
Аўтар фотаздымкаў **Януш Мазурэк**

# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам

Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. Адзін са шматлікіх панэляў быў прысвечаны пытанню сухога порта на еўразійскім транспартным шляху.



Злева направа: Томаш Жухоўскі, Хао Вонг, Гжэгаж Хоцян, Богдан Рогаскі, Патрыцыя Пэндракоўска, Дзмітры Ражкоў, Катажына Чэрэвач-Філіповіч і Яніцыюш Назарка

**Яніцыюш НАЗАРКА**, дырэктар Кітайска-Усходнееўрапейскага інстытута лагістыкі і абслугі, загадчык факультэта інжынерыі кіравання Беластоцкай палітэхнікі: — Шансы развіцця ствараюць новыя камунікацыйныя шляхі. Частка з іх рэалізуецца, гэта пан’еўрапейскія магістралі. З’явілася і кітайская ініцыятыва новага Шаўковага шляху. Гэта стварае нашаму ваяводству, якое не ў шарэнзе лідараў гаспадарчага развіцця, непаўторны шанс стварэння сеці мультымадальных лагістычных вузлоў, якія б звязвалі з сабою чыгуначны, дарожны, паветраны ці нават трубаправодны транспарт.

**Катажына ЧЭРЭВАЧ-ФІЛІПОВІЧ**, факультэт інжынерыі кіравання Беластоцкай палітэхнікі: — Каб наша ваяводства развівалася ў задавальняючых мерах, мусім бегчы хутчэй за іншых. І дзеля гэтага мы павінны шукаць штораз то новых інструментаў, якія дазволяць дынамізаваць нашу гаспадарку. 72% ПДВ на душу ад краёвай сярэдняй не задавальняе нас. Таму, магчыма, сухі порт дазволіў бы нам аблегчыць той хутчэйшы бег. Наша ваяводства знаходзіцца не толькі на ўсходняй граніцы так нашай краіны, як і Еўрасаюза. Але заўважце, што большасць тае еўрасаюзнае граніцы, якая знаходзіцца ў нашым ваяводстве, гэта граніца між ЕС і Еўразійскім эканамічным саюзам (ЕАЭС). Значыць, структурай, якая, тэарэтычна, будучы таможнай уніяй, інтэгруе рынкі пяці дзяржаў: Расіі, Казахстана, Беларусі, Арменіі і Кыргызстана. Значыць, тэарэтычна то ў нашым ваяводстве знаходзіцца граніца і месцы, дзе можна перасякаць менавіта тую граніцу, дастаючыся да так вялікага супольнага таможнага абшару. Той таможны саюз часткова тэарэтычны, але ён мае шанс задзейнічаць, бо ўзнік дзеля таго, каб стацца мостам між Еўропай і Азіяй, ці, проста, рэгіёнам Азіі і Ціхага акіяна. Маем пяць чыгуначных пераходаў, тры з іх выкарыстоўваюцца. Усе тыя тры прадстаўляюць магчымасць перасякання граніцы ў абодва бакі так па шырокіх, як і па вузейшых чыгуначных пуцях. Маем тады магчымасць задаволіць выклікі звязаныя з інфраструктурным спалучэннем з Усходам. Маем таксама тры дарожныя пераходы, маем водны байдарачны пераход, маем пешы пераход у Белавежы. Знаходзімся таксама на трасе буйных транспартных шляхоў Via Baltica, Rail Baltica, але таксама Via Carpatia — гэтыя шляхі сплятаюцца ў нашым ваяводстве. У нас асабліва карыснае геалакалізацыйнае палажэнне калі мова пра гэтую транскантынентальную сетку спалучэнняў між Кітаем ці Паўднёва-Усходняй Азіяй і Еўропай. Гэтыя спалучэнні, дарожныя і чыгуначныя, перасякаюць граніцу між ЕАЭС і ЕС менавіта ў Польшчы; прыгадаю, што частка іх, якія праходзяць цераз Украіну, непраходная на сённяшні дзень. Найбольш вядомы пагранпераход у Малашэвічах абслугоўвае 9-10 цягнікоў у суткі, пры першасным тэзісе, што мае абслугоўваць чатырнаццаць, а зараз патрабуе звыш дваццаці. Патрэбы растуць і на практыцы з году ў год падвойваюцца. Існуе неабходнасць павышэння праходнасці, каб ліквідаваць тое вузкае горла на транспартным шляху. На гэта звяртаюць увагу міжнародныя інстытуты, паказваючы нашы пагранпераходы як тыя, што мусяць быць больш праходнымі, каб ліквідаваць вузкае горла. Кітайска-казахскі пагранпераход Харгос на тым самым шляху што і мы. У іх такая ж задача як і ў нас, г.зн. там ёсць той сухі порт, дзе адбываецца змена шырыні чыгуначных пуцей, бо ў Кітаі такая ж шырыня, што і ў ЕС, і там на ўсе постсавецкія краіны адбываецца перагрузка ці транзіт. У Харгос даязджаюць цягнікі нават з Шанхая і да нашых пагранпераходаў едуць 8-9 дзён. Супрацоўніцтва з Усходам можа кампенсаваць многія нашы гаспадарчыя недахопы і стаць дадатковым штуршком для нашага развіцця.

**Дзмітры РАЖКОЎ** з Гродзенскай свабоднай эканамічнай зоны: — СЭЗ Гроднаінвест самая маладая свабодная эканамічная зона РБ. Першыя прамысловыя ўчасткі былі сфармаваны ў красавіку 2002 года. З таго часу зона павялічылася чатырохкратна і ахоплівае восем раёнаў Гродзенскай вобласці. За той час зона стала лідарам сярод СЭЗ Беларусі ў шэрагу ключавых паказчыкаў. Сёння ў нас 76 прадпрыемстваў, якія ствараюць чвэрць прамысловага сектара Гродзенскай вобласці і даюць звыш 40% экспарту прамысловай вытворчасці. І каля 60% замежных інвестыцый. І 90% усёй дрэваапрацоўчай прамысловасці Гродзеншчыны. Прыцягнуты інвестыцыі з сарака краін свету; прыкладам польскія бізнесмены інвеставалі звыш ста мільёнаў долараў ЗША прамых інвестыцый — гэта 13% ад агульнага аб’ёму інвестыцый СЭЗ. Збудаваны буйныя лагістычныя цэнтры ў Ашмянскім і Гродзенскім раёнах, будуецца і ў Берастравіцкім раёне. У 2016 годзе ў СЭЗ былі ўключаны ўчасткі пагранпераходаў на граніцы РБ і РП; сёння такія ўчасткі сфармаваны ў Гродзенскім і Свіслацкім раёнах, уключаючы тэрыторыю побач міжнароднага аэрапорта Гродна. Мультымадальны цэнтр ствараецца ў Брузгах на граніцы з Польшчай. Тут павінна быць развіта таксама чыгуначная інфраструктура так з беларускага, як і польскага бакоў. Карысна было б, калі б Rail Baltica задзейнічала і ў Гродзенскай вобласці.

**Богдан РОГАСКІ**, дырэктар Беластоцкай гандлёва-прамысловай палаты: — Наша ваяводства мае велізарны патэнцыял не да канца выкарыстаны. Існуе шмат спрыяльных акалічнасцей. Зараз палітычныя адносіны між Украінай і Расіяй прывялі да таго, што Украіна на практыцы пазбаўлена транзіту. Транспарт з Усходу ў Еўропу праходзіць цераз Беларусь; Беларусь стала транзітнай краінай. Між Беларуссю і Польшчай функцыянуе пяць чыгуначных пераходаў, галоўны ў Малашэвічах, які зараз шпарка мадэрнізуецца. У нашым ваяводстве чатыры чыгуначныя пераходы, з якіх працуюць толькі два — у Кузніцы і ў Семяноўцы; два апошнія выключаны, не дзейнічаюць. Значыць, ёсць вялікі нявыкарыстаны патэнцыял. Чыгуначны транспарт кантэйнераў з Кітая ў Еўропу і назад праходзіць па тэрыторыі Расіі. Зараз Малашэвічы на граніцы сваіх тэхнічных магчымасцей узбуйнення чыгуначнага перавозу. Польская гаспадарка, якая базіруецца на вугалі, патрабуе штораз больших паставак вугалю з Расіі; сёлета гэта будзе дваццаць млн. тон, з чаго 14 млн. тон імпартуецца з Расіі чыгункай. Галоўная частка гэтага праходзіць цераз Малашэвічы. І калі Польшча штогадова на 3% меншае здабычу вугалю, то бракуе нам двух млн. тон. І тыя 2 млн. тон трэба прывезці. А адзін млн. тон гэта 400-500 пар таварных цягнікоў; яны не змесяцца, не здолеем прыняць. Малашэвічы гэта таксама транзітны пагранпераход у Чэхію і Венгрыю для жалезнай руды. Гэта таксама галоўны пункт перавозу паліва. Нельга дазволіць, каб польская гаспадарка залежала ад аднаго перахода — мусім стварыць альтэрнатыву. І Падляшша мае вялікі шанс такую альтэрнатыву стварыць. Другім пагранпераходам па велічыні перагрузак з’яўляецца Кузніца, трэцім Семяноўка. Але гэтыя пераходы не мадэрнізуюцца, не вызначаны транзітныя калідоры з еўрасаюзнай падтрымкай. Мусім думаць пра будучыню, не пра тое, што ўжо зроблена, але пра тое, што трэба зрабіць.

**Томаш ЖУХОЎСКІ**, дырэктар Управы краёвых дарог і аўтастрад: — З дарожных магістралей, што плануюцца ў Падляшскім ваяводстве, Via Baltica павінна быць гатова ў 2023 годзе, Via Carpatia ў 2027 годзе.

**Гжэгаж ХОЦЯН**, загадчык праўлення суполкі Ekoton: — У 1990-х гадах усе банкі, краёвыя і замежныя, хацелі мець у Беластоку свае аддзяленні. Пасля наступіла ўшчыльненне ўсходняй граніцы. І бізнесы пачалі падаць. Безумоўна, гандлёвыя шляхі вырашаюць пра гаспадарчае развіццё, не толькі дарожныя ці чыгуначныя. Справа аэрадрома: 1350 метраў узлётнай паласы на Крыўлянах не можа быць дастатковым аэрадромам. І гэтага нельга разбудаваць на патрэбы грузавога транспарту. Каб грузавы авіятранспарт меў сэнс, то мусяць быць вялікія самалёты. А гэта абазначае, што ўзлётная паласа мае быць не карацейшай за 2800 метраў. Сухі порт гэта толькі фразеалагічная канструкцыя. Справа ў тым, што нават цяпер, калі цягнікі едуць з Далёкага Усходу, з Кітая, у Еўропу, то яны не спыняюцца ў Польшчы, толькі едуць далей. Галоўным чынам едуць у вялікі лагістычны цэнтр у Дуісбургу, які распаложаны сама пры рацэ Рэйн, а гэта абазначае, што ёсць магчымасць перагрузкі і далейшы транспарт па рацэ Рэйн на Паўночнае мора. Ці мы можам марыць пра такое? Воды польскія задумваюць праект, мэтай якога ўсуднавенне польскіх рэк. І тут, у нас, заўважылі, што існуе водны шлях E40, які злучае Балтыку з Чорным морам. Аднак ніхто з нашых уладароў не ўдзельнічае ва ўзгадненнях таго праекта. А ёсць праекты, каб той шлях ішоў у напрамку Дэмбліна і адтуль толькі ўпінаўся ў Буг. [Ёсць тры варыянты пракапання канала ад уліцця Мухаўца ў Буг у напрамку Віслы, абмінаючыя ніжэйшае цячэнне Буга, беручы пад увагу ландшафтна-прыродныя каштоўнасці яго рэчышча: паралельна да рэчышча Буга па тэрыторыі Мазавецкага ваяводства амаль да ўліцця Буга ў Нарву, па рацэ Вільга ў Віслу ды па рацэ Вепш таксама непасрэдна ў Віслу — А. В.] Гэта яшчэ не канчатковае рашэнне, толькі рэкамендацыя. Цэнтральны камунікацыйны порт не развяжа тых праблем, якія хочам рашыць.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Памятны здымак з гарадоцкімі пятакласнікамі.

# У чаканні Каляд!

У лістападзе дзень зляціць як з біча. Не азірнешся — ужо вечар. У Гарадку пятая частка вучняў даязджае з вёсак. Самую далёкую дарогу адольваюць дзеці з Падазеран. У школу і са школы яны дабіраюцца ў цемры. У такім настроі ўсе мараць пра святло і цеплыню.

— Наш, пяты клас, рыхтуе калядную праграму, — кажа Анна Гжэсь, настаўніца беларускай мовы. Перад пяцікласнікамі незвычайны выклік. Трэба развучыць вершы і песні. Калядны рэпертуар заўсёды цёплы і светлы. Нашы сябры спадзяюцца, што публіку сагрэе і мілагучная, беларуская мова. На ёй заспяваюць калядкі, у якіх святло цудоўнага нараджэння Божага Дзіцяці.

У Гарадку за трыста вучняў і сямнаццаць класаў. Трэцяя частка з іх ходзіць на беларускую мову. Большасць з іх нанова адкрывае культуру продкаў. У школе працуе таксама музычны гурт «Казка», самавітая візітная картачка школы. У рэпертуары шмат беларускіх песень. Дзякуючы ўрокам лягчэй развучыць і зразумець словы песень. Разам адраджаецца цікавасць да мовы продкаў.

— Самы вялікі першы клас, там ажно 19 дзяцей запісалася на беларускую мову, — кажа спадарыня Анна Гжэсь.

У вялікім класе цікава гуляць і вучыцца. У такую кампанію не мае адвагі з'явіцца сумны лістападаўскі настрой. Пяцікласнікі, дзе таксама шмат вучняў, гэта разумеюць. Яны зробяць усё, каб бліснуць на школьнай сцэне з каляднымі вершамі і песнямі.

Поспехаў вам, даражэнькія!

**Зорка**

**фота Ані Гжэсь**

Міхась Пазнякоў

## Малпачка

*з народнага*

Аднойчы з лясістага ўзгор'я
Спусцілася Малпачка ўніз.
А там, за сялянскім падвор'ем,
Расла кукуруза паблiз.

З паспелых пачаткаў вусатых
(Ну чым не жаданы абед?)
Глядзелі тугія зярняты
З-пад тонкага лісця на свет.

І Малпачка спрытна нарвала
Найспелых адных акурат,
На плечы ўзваліўшы, памалу
Пакрочыла ў сонечны сад.

Сагнулася нават ад грузу.
Глядзіць: персікі ў садзе вісяць,
Шпурнула яна кукурузу —
Ды смачныя персікі рваць.

Сарвала штук пяць і — дахаты.
Ішла цераз поле дамоў,
А ў полі тым шмат паласатых
І спелых расло кавуноў.

І радасна Малпачцы стала,
У скокі ад шчасця пайшла,
І персікі ўраз пакідала,
Вялікі кавун узяла.

Нясе той кавун крутабокі,
Так цяжка, што ногі гудуць,
Ідзе, а два зайкі з падскокам
Па сцежцы насупраць бягуць.

То скачуць, то дужацца жартам
Пачнуць у траве, дзівакі,
І ёй захацелася раптам
Злавіць іх. Забаўных такіх.

І кінула Малпачка ношу,
Пабегла, а зайкі ўцякаць,
І зніклі, дарэмны быў пошук,
Нідзе не было іх відаць.

Ах, бедная Малпачка! Самі
Вы ўсе зразумелі без слоў:
Вярнуцца з пустымі рукамі
Прыйшлося на ўзгор'е дамоў.

# УВАГА КОНКУРС!

## № 46-19

**Чаму певень спявае вочы заплюшчыўшы?**

**(Каб паказаць курам, што .....)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 1 снежня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 42 (Як стаіць, дык вышэй каня, як ляжа, дык ніжэй вераб'я — гэта ДУГА). Узнагароды, календарыкі на 2020 год, выйгралі Аліўка Каранкевіч, Кацпэр Грычэль, Клаўдзія Анджэйчык, Корнэль Карлаў. Віншуем!**

# Мастацкая прапанова для дзяцей

Размалюйце сюжэт паводле народнай беларускай прыказкі:

**У лістападзе — кладзі капусту ў кадзі!**

Маляванкі дашліце ў «Зорку»; тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**(гак)**




Вучні, бацькі і настаўнікі з бельскай «тройкі» у «Ніве»

# Ваўкалак

## (беларуская народная легенда)

Спытаеце — як гэта магчыма? Я сам не даваў веры, пакуль на маёй дарозе не з'явіўся той небарака, — чалавек які ваўкалакам быў. Ішоў я аднойчы лесам, да Неўклі. Насупраць чалавек ідзе, спалоханы, паламаны як пасля бітвы. Я пытаю ў яго:

— А хто ты будзеш? Чаму як яблык пабіты?

— І ты брат такім бы стаў, — адказаў чалавек, — каб стольні гадоў ваўком пабегаў!

— Няўжо ты ваўкалакам быў?

— Быў.

— Раскажы, што здарылася!

Мы пайшлі ў карчму, перакулілі па васьмушцы. І ён пачаў:

— Аднойчы я крыў стадолу і пасварыўся з суседкай. Пры рабоце выпаў з рук сноп саломы і грымнуў да яе на агарод. А яна выбегла і крычыць:

— Ты мне паламаў каноплі!

— Хіба я хацеў? Гэта Бог так даў. Хочаш, у суд мяне падавай. І суд тут нічога не зробіць!

А яна яшчэ больш успенілася і верашчыць:

— Добра, будзеш ведаць свой суд: я цябе сама рассуджу!

Пачалі сварыцца, мацюкацца. Думаў — усё замецена. Аднак не, яно толькі набрыняла.

Праз тыдзень я паехаў з кумам на млын. Змалолі жыта, едзем назад. Па дарозе зрабілі папас для коней. І стала мне на сэрцы так цяжка, так нудна — не расказаць. Ды яшчэ захацелася праз хамут пралезці. Пралез я дурны праз свой хамут і ваўком пабег...

Першыя тры гады бегаў адзін, а на чацвёрты мяне ваўкі ў свой гурт прынялі. Аднойчы святы Юры прыказаў нам рабога каня з'есці. Той конь пах нам на сто кіламетраў. І гналіся мы за ім тыя сто кіламетры, ды іншых коней не чаплялі. З'елі таго каня і цэлы тыдзень, пузы адкінуўшы, праляжалі. А калі прагаладаліся, ваўкі паслалі мяне да пастуха па свіней. Я падляцеў, схапіў парасятка. А пастух кажа:

— Эй ты! Што бярэш без пытання!

Я спруцянеў ад яго слоў. Гляджу — навакол ямы. А ваўкі стаяць па другім баку і крычаць:

— Кідай і ўцякай!

А я не магу з месца зрушыць, тырчу як стоўп спарахнелы. Але той пастух падышоў да мяне і сказаў:

— Кінь!

Тады я кінуў, а пастух узяў пугу і ўдарыў мяне па хрыбце і лытках дванаццаць разоў. Ажно з мне воўчая шкура звалілася. І стаў я зноў чалавекам, толькі пакалечаным і крывым. І яды іншай як мяса не бяру. Вось як жанчына мяне абрабіла!

(Паводле легенды запісанай этнографам Еўдакімам Раманавым ад селяніна Філіпа Іванава з вёскі Марковічы, што на Чарнігаўшчыне.)

**(гак)**

*Янка Купала*

## Лістапад

З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца.
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясцяць
Залацістыя,
Увысь галінкі глядзяць
Пусталістыя.

А як прыйдзе вясна —
Усё адменіцца,
І галінкі ізноў
Зазяленяцца.

## Польска-беларуская крыжаванка № 46-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42-2019:**

Ян, вілкі, ранак, іл, на, сіроп, брат, нара, яр, класік, ах, сто, удод, Астап. Ген, абрад, траса, нітка, твар, ікона, пас, які, рота, Ніл, акоп,

Узнагароды, аўтаручкі (cienkopisy), выйгралі **Алівія Маркевіч, Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Кадлубоўская** з Градалёў, **Крыстыян Мойсак, Юля Лех, Клаўдзія Анджэйчык, Кася Радаль, Давід Мартонік, Якуб Рыбачэк** з Залук. Віншуем!



Частка 5

# Генетычны алфавіт



Чальца Палітбюро гэта тэма зацікавіла, як дзіця разабраны гадзіннік. Вельмі ён цікавіўся нацыянальнымі асаблівасцямі. Бо быў пастаўлены, каб знішчыць іх на бязмежных абшарах Савецкага Саюза раз і назаўсёды.

— Дык, а што тут гаварыць?! — уздыхнуў разведчык. — Ну, добра, скажу. Табе скажу. Толькі памятай, што гэта інфармацыя сакрэтная. Некалі вялікі князь Вітаўт браў да сябе на службу маладых татараў. То паставіў перад імі ўмову, каб прыязджалі толькі халастыя і жаніліся з мясцовымі беларускамі. А ўсё астатняе маглі пакідаць сваё, уключаючы і веру, і традыцыі. Ну дык, ад тых беларусак такія татары нарадзіліся, што многія станавіліся большымі беларусамі, чым некаторыя мясцовыя. Служылі князю як родныя. Не так, як нашы расійскія татары, што супраць Расіі з кожнай спрыяльнай і неспрыяльнай нагоды падымаліся. Вось якая ў тых беларусак моцная генетыка. Татарскае семя перацерці можа, як млын збожжа.

— А што вядома ўвогуле ў гэтай справе з тым падкідным амерыканскім шпіёнам? Усё распавядай.

— Тое-сёе нам вядома. Але не ўсё. Нашы інфарматары паведамілі, што амерыканцы ўжо прыгледзелі ў Беларусі закаханую пару. Як толькі дзяўчына вырашыць парушыць савецкую жаночую этыку, ну, як тут сказаць, як вырашыць аддацца свайму абранніку, іх амерыканскі агент падсуне ёй адмысловы напой. Падалье яго ў віно ці падсыпле ў ежу. Або зробіць што іншае, каб яна захварэла і страціла прытомнасць, ці яшчэ што падобнае здарылася. Абы патрапіла ў шпіталь. А там завербаваны амерыканскай разведкай мясцовы лекар новымі заходнімі медыцынскімі тэхналогіямі заменіць семя яе хлопца на семя амерыканскага шпіёна. А затым, праз дзевяць месяцаў, па загадзе Дзяржаўнага дэпартамента Злучаных Штатаў Амерыкі і згодна з планамі амерыканскай разведкі ў нас пад носам, недалёка ад Мінска, сталіцы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, народзіцца хлопчык. Ён і будзе ўяўляць галоўную небяспеку для нашай бяспекі.

Пасля гэтага чарговага моўнага каламбуру ў партыйца твар таксама стаў як у муміі Тутанхамона, і зараз ён ад генерала адрозніваўся толькі адсутнасцю пагонаў. Левая рука нервова барабаніла па стале і збівала з рытму дождж. Правая таксама стукала па стале пустым кілішкам і збівала з рытму левую руку.

— А што невядома? — працадзіў ён праз зубы.

— Пакуль мы не ведаем, што гэта за пара беларускіх закаханых. Але нашы агенты працуюць ва ўсіх гарадах і вёсках Беларусі. І нават на хутарах. На дадзены момант намі налічана адзін мільён сто трыццаць дзве тысячы дзвесце пяцьдзясят сем патэнцыйна закаханых пар. Кантраляваць кожную пару асобна цяжкавата нават для нашага ведамства. А вось калі адкінуць жанатых, старых, пажылых, людзей няплоднага ўзросту і камандзіровачных, то колькасць зменшаецца ў разы. Але сочым і за жанатымі, і за камандзіровачнымі.

— Навошта?

— На ўсялякі выпадак. Раптам жанатыя развядуцца, а пасля зноў закахаюцца ў сваіх жонак, што здараецца значна часцей, чым моцнае каханне без разводу. Ці камандзіровачны ўцячэ да сваёй жонкі на ночку. Хоць гэта малаверагодна. Камандзіровачныя да іншых жонак ахвочыя, а не да сваіх. Але чым чорт не жартуе. Ёсць жа і такія ненармальныя, што да сваіх лятуць.

— Слушна.

— Вось для гэтага, на дадзеным этапе нам трэба павялічыць бюджэт у сто трыццаць дзве тысячы разоў. І яшчэ там хвосцік у сем дзясятых. Тады мы іх перайграем, — на гэтай аптымістычнай ноце завяршыў свой даклад разведчык.

— Вось яно як! — гэтым разам і рот Івана Іванавіча раскрыўся значна шырэй, чым дазвалялі яго прыродныя магчымасці.

Пра зрэнкі то і гаварыць не варта. Але праз момант усё прыйшло ў норму. (Яшчэ адна анамалія, уласцівая толькі партыйным работнікам Савецкага Саюза.)

— Трэба тэрмінова збіраць Палітбюро, — рашуча адрэзаў ён, расчараваны стукнуўшы кволым кулаком па стале.

Папяльнічка з выявай герба Савецкага Саюза гэтым разам нават не зварухнулася з месца.

— Ні ў якім разе, Іван Іванавіч! Ні ў якім разе! — узвыў генерал так, што вецер сціх зусім. Прытаіўся, як спалоханы заяц пад калючым кустом, у чаканні, што будзе далей. — Наш галоўны козыр акурат у тым, што амерыканцы думаюць, нібыта мы не ведаем пра іх планы. Пасля пасяджэння Палітбюро інфармацыя прасочыцца да іх, як праз дзіравае сіта. Таму я і паклікаў вас уночы, каб вы тайна санкцыянавалі нашу контраперацыю і выбілі пад яе сродкі. Толькі так мы зможам перашкодзіць гэтым праклятым капіталістычным імперыялістам.

У кабінеце стала так ціха, што было чуваць, як дыхаюць два лейтэнанты за сцяной. Яны дыхалі ва ўнісон. Як адзін. Толькі мацней, чым адзін, у два разы.

Партыец думаў. І выглядала так, што гэтым разам ён думаў галавой. Бо цёр далонямі ўпалыя скроні, ажно выкачваў з іх сівыя валасы. Праз нейкі час падалося, што ён так будзе рабіць вечна ці аж да перамогі сусветнай рэвалюцыі, што параметры часу аніяк не мяняла. Урэшце партыец неахвотна перарваў цішыню:

— Ды не гарачыся, Фёдар Фёдаравіч. А скажы лепш: тое, што мы гаворым тут, у тваім кабінеце, яны не даведаюцца пра гэта? Сам кажаш, імёны нашы ўжо ведаюць! Імя, і імя па бацьку. Усё супраць нас. Нават імёны. Ім прасцей нас ідэнтыфікаваць, чым нам іх. У іх то Джон, то Джэк, то Том, то Чарлі... Як у сабак. Заблытацца лёгка. А ў нас, як даведаліся імя і імя па бацьку, дык ужо і цалкам раскрыты.

— Дык мы ж даўно памянялі свае імёны на супрацьлеглыя, Іван Іванавіч! Мы імя па бацьку зрабілі сваім асноўным імем, а асноўнае імя зрабілі імем па бацьку. Ты што, не памятаеш? Нашы ж сапраўдныя імёны моцна засакрэчаныя.

— Ах, так, так... Добра, Фёдар Фёдаравіч. А я ўжо, па праўдзе кажучы, і забыўся пра гэта. Прывык неяк. Усё жыццё Іван Іванавіч. Я то сваё сапраўднае імя ўжо і сам зусім забыўся. А было б наадварот. Іван Іванавіч было б, — задумаўся. — А ў цябе было б Фёдар Фёдаравіч. Сапраўды неяк заблытана атрымалася. Самому разабрацца цяжка, — падсумаваў.

— Вось бачыце. На гэта і быў увесь разлік. Як мы не будзем памятаць сваіх імёнаў, то як нашы ворагі іх дазнаюцца?

— Праўда твая. І гэта была сапраўды моцная лінія партыі. Што чарговы раз пацвярджае веліч і інтэлект КПСС.

— Таму мы і дамагаемся, каб усе савецкія людзі забыліся, хто яны. І каб усе змянілі свае імёны ў мэтах канспірацыі. Але пакуль яшчэ не ўсе паддаюцца. Ну, нічога. Мы з імі папрацуем. Яшчэ забудуцца.

— Эх, — з горыччу выкрыкнуў чалец Палітбюро ды так нервова, што, здавалася, буянства прыроды за акном нарэшце перадалося яму. — Ну як з такімі несвядомымі людзьмі можна светлую будучыню пабудаваць?! Працуеш вось, ночы не спіш, а яны... Для іх жа камунізм будуем! А з іх дапамогі як з казла малака. І вы не дапрацоўваеце там у сваіх спецслужбах, не дапрацоўваеце! Якія вашы цяперашнія дзеянні па нейтралізацыі гэтага амерыканскага звышшпіёна?

— На дадзеным этапе нам трэба, каб гэтая выбраная амерыканцамі пара не паспела пераспаць. Сексу то ў нас няма, але дзеці нараджаюцца. Зыходзячы з гэтага парадоксу, можна зрабіць выснову, што яны могуць усё ж разок-другі спарыцца. Ну, разумееце, пра што я.

— Разумею-разумею. Памятаю, неяк па маладосці была ў мяне адна Дуся. Ну дык мы з ёй... Ну, давай лепш да справы.

— Нам вельмі трэба, каб дзяўчына не паспела развітацца з нявіннасцю да таго часу, пакуль мы не вылічым, што гэта за пара. Для гэтага ў Беларусь трэба наладзіць пастаўкі таннага алкаголю. Каб аслабіць мужчынскую сілу ўсіх пагалоўна самцоў-беларусаў. Ну, а калі алкаголь танны, то дзеўкі і задарма не трэба. Такая псіхалогія мужчыны кожнай нацыі. Асабліва ў калгасе. Гэта вельмі складана, бо алкаголь — галоўная крыніца папаўнення нашага бюджэту, і змяншаць кошт небяспечна. Але трэба. Таксама трэба масава распаўсюдзіць венерычныя хваробы і ліквідаваць ва ўсіх савецкіх аптэках лекі ад іх, каб павялічыўся страх да палавых сувязей. Гэта не складана, бо лекаў там і так няма. Усіх, хто з кім спараваўся, узяць пад узмоцнены кантроль. Ну, гэта мы ўжо робім праз палiклінікі, шпіталі, участковых міліцыянераў і камсамол. Ну, а як знойдзем гэтую закаханую пару, будзем перашкаджаць ім пераспаць, ажно пакуль не вылічым доктара-здрадніка. Для гэтага ўжо падрыхтаваны адмысловы агент у ролі фатографа. І па мянушцы Фатограф. Такі фатограф Фатограф. Каб ворагу цяжэй было рассакрэціць яго. З якога боку ні вазьміся, з таго ён і фатограф. Вось і гадай, дзе яго мянушка, а дзе прафесія.

— Як у нас, Іван Іванавіч, Фёдар Фёдаравіч...

— Ну, так. Таму мы...

— А ці не прасцей знішчыць насельніцтва ў небяспечных рэгіёнах? — раздражнёна перабіў яго Іван Іванавіч. — Якую сібірскую язву ці іншую хваробу распаўсюдзім. Ці пераб'ём, чорт з імі, усіх пагалоўна з аўтаматаў. Бі сваіх, чужыя баяцца будуць, як гаварыў нехта там з вялікіх! Ці ўзарвём ваенныя склады, скажам, што аварыя, голад можна арганізаваць на худы канец. Тэхналогіі правераныя, працуюць бездакорна. Ці пераселім іх усіх адтуль к чорту ў Сібір, ці на Салаўкі, ці на Камчатку. Краіна то ў нас вялікая. Месца то — о-го-го! Парасківаем так, што аніякая закаханая пара больш не сустрэнецца. Зноў жа, імёны ім памяняем... Гэта ж акурат перасякаецца з нашым праектам па знішчэнні нацыянальных адрозненняў...

Чалец Палітбюро так разышоўся, што запырскаў слінай палову кабінета. І стол, і падаконне, і бюст Леніна, і партрэт Дзяржынскага, і нават люстру. І як ягоная вільгаць пачала падмочваць і акуратна адпрасаваны і вычышчаны генеральскі мундзір Фёдара Фёдаравіча, той вырашыў пакласці канец гэтым бескантрольным канвульсіям. Ну хоць часова.

— Гэтым разам не атрымаецца так проста і лёгка, — расчараваў апантанага крывавым энтузіязмам суразмоўцу спецслужбовец. — Я і сам пра гэта думаў. Яно-то і танней было б, чым наша аперацыя, і хутчэй. Але амерыканцы тады ўсё прааналізуюць, унясуць карэктывы ў свой план і зробяць гэта ў іншай рэспубліцы Савецкага Саюза. А мы не будзем ведаць дзе. Так хоць ведаем, што іх аперацыя будзе праходзіць у Беларусі.

— Ну, добра, — пагадзіўся чалец Палітбюро. — Хопіць мне падрабязнасцей, далей працуй сам. Грошы я табе выб'ю. На такую справу трэба. Толькі ж і вы не падвядзіце.

— Не падвядзём.

— Дык, кажаш, Беларусь. Эх, Беларусь! Я некалі быў там, у 1939 годзе. Разам з першым сакратаром Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі Панцеляймонам Кандрацьевічам Панамарэнкам аб'ядноўвалі Заходнюю і Усходнюю Беларусі. Мы-то (і я, і Панцеляймон Кандрацьевіч) лічылі, што не трэба такой рэспублікі, як Беларусь. Але паколькі яна была, то трэба было некаму ўзначаліць усё, што там адбывалася. Вось ён і ўзначаліў. Эх, Беларусь, Беларусь! Паехаць бы яшчэ туды... Але дзе ўзяць час.

Іван Іванавіч прыўзняўся з крэсла. Дзверы кабінета імгненна расчыніліся, і малады лейтэнант стаў ля іх стромка, як антэна радыёперадатчыка. Чалец Палітбюро, шаркаючы фінскімі пантофлямі па дасканала націёртым паркеце, пасунуўся да выхаду. Генерал зноў зрабіў нейкую пазнаку ў сваім нататніку.

— Ну што ж, за работу, — цвёрда заявіў ён. — У Беларусі хутка настане раніца...

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Анатолю Сысу было б 60

***Я чуў з неба сум ваш на зямлі,***
***вы не судзіце свайго сына строга,***
***мяне анёлы за руку ўзялі***
***і, як дзіця, вядуць да Пана Бога.***
***Таму па мне не плачце, мама, многа,***
***бо да Хрыста, нібы дамоў, дарога...***




**Анатоль СЫС**: «Нарадзіўся я і вырас у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Мая хата стаіць на гарадзішчы Зарубінецкай і Мілаградскай культур. Гэта III-IV стагоддзі да нашай эры. Яшчэ мая маці і бацька ў 50-х гадах удзельнічалі ў раскопках пад кіраўніцтвам прафесар Мальнікоўскай. Бацька на самазвале адвозіў скрыні са знаходкамі ў Рэчыцу на цягнік, а адтуль іх адпраўлялі ў Маскву, Ленінград. Гэта мае аднагодкі хадзілі па лясах, снарады капалі, а я з дзяцінства саматугам капаў чарапкі, маністы, крамянёвыя наканечнікі стрэлаў ды насіў у мясцовы краязнаўчы музей. Я, дарэчы, часта жартую, што сталіца Беларусі — Гарошкаў, бо першага глінянага каня знайшлі на маім гародзе, як бульбу капалі».

25 кастрычніка ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» наладзіць літаратурна-музычную імпрэзу, прысвечаную 60-годдзю з дня нараджэння Анатоля Сыса — паэтычнае свята «Агмень». Літаратурны фестываль раней кожны год праходзіў у Гарошкаве, ля ягонай хаты, і збіраў дзясяткі аматараў творчасці і сяброў Анатоля, а сёлета пашырыў фармат і праводзіўся ў сталіцы. Да свята далучыліся і тыя, хто традыцыйна браў удзел у імпрэзе, і тыя, хто раней не наведваў мерапрыемстваў фестывалю, асабліва моладзь, для якой аўтар стаў легендай. Драматург і літаратуразнаўца Сяргей Кавалёў распавёў пра сваю новую кнігу, якая будзе прысвечана акурат Анатолю Сысу і створанаму паэтам міфу. Леанід Галубовіч прыгадаў некалькі эпізодаў і сустрэч з Сысам яшчэ на пачатку 1980-х гадоў і свой адзіны сон, у які завітаў Сыс і які спарадзіў інспіраваны гэтым сном верш спадара Леаніда. Віктар Шніп распавёў некаторыя экстравагантныя рэчы з біяграфіі Сыса, а паэты Ларыса Раманава і Сяргей Сыс гаварылі пра чулае стаўленне паэта да маці, сваякоў, аднавяскоўцаў і ўсёй сваёй малой радзімы. З Падляшша прыехалі ніўскія Ганна Кандрацюк і Міра Лукша, каб падзяліцца з аўдыторыяй і сваім бачаннем паэзіі Сыса, і ўспамінамі пра Гарошкаў, а таксама літаратурнымі навінамі і турботамі Падляшша. Пра паэзію Анатоля Сыса гаварылі паэтка і літаратуразнаўца Аксана Данільчык, паэт і публіцыст Міхась Скобла, паэтка Людміла Сільнова. Падчас свята адбылося ўзнагароджанне Літаратурнага конкурсу «Экслібрыс», які ладзіць Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сёлета конкурс быў прымеркаваны да 60-гадовага юбілею Анатоля Сыса, а пераможцам стаў паэт Міхал Бараноўскі.

Анатоль Сыс (26.10.1959 — 4.05.2005) — беларускі паэт. Скончыў гістарычна-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1982). Пасля службы ў савецкай арміі працаваў у Веткаўскай раённай газеце, старэйшым спецыялістам на Беларускім тэлебачанні. Дэбютаваў вершамі ў часопісе «Маладосць» (1986). У 1986 годзе А. Сыс разам з аднадумцамі ўдзельнічаў у стварэнні Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Актыўны ўдзельнік маладзёвых нефармальных аб'яднанняў другой паловы 1980-х гадоў — «Талака», «Тутэйшыя». Культавы беларускі паэт канца 1980-х гадоў. Ад сярэдзіны 1990-х да сваёй смерці Анатоль Сыс вельмі рэдка пісаў новыя творы. Паэзія, грамадзянская і творчая пазіцыя А. Сыса паўплывалі на некалькі пакаленняў беларускіх паэтаў.

На вечарыне прагучаць вершы Анатоля Сыса і песні на яго словы ў выкананні Сержука Доўгушава, Касі Камоцкай, Алега Хаменкі...


Фота Міры ЛУКШЫ

Мерапрыемства прайшло ў канферэнц-зале гатэля „Мінск" (зала рэстарана «Сёмае неба») па праспекце Незалежнасці, побач Чырвонага Касцёла, на шостым паверсе. А шукалі, усё ж, сёмага паверха, што, пэўна, прынцыпова рабіў бы і Анатоль Сыс! І ўспаміналі Анатоля тыя, для якіх ён не так легенда, аўтар магутных вершаў пра радзіму, натхняльнік, супрацоўнік, але і сябра, прыяцель, каханы. Так сказаць, для сабраных вечарына Сыса адбывалася нібыта пры жывым паэце, нібыта ён не адышоў амаль пятнаццаць гадоў таму. Успамінаўся і тэмперамент Сыса, і ягоныя рысы характару, але не было гэта самае галоўнае. «І кожны выпіў за сябе», сваім вершам, песняй, успамінам.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**: «Споўнілася б Анатолю ўсяго 60 год... Але вось — сабраў нас усіх, сустрэліся, хто даўно не бачыўся. Нарэшце спаткалася з Мірай Лукшай з Беластока, хроснай нашага сына Максіма. Не без прыгодаў абышлося: ішлі ад метро з Наталкай Кучмель, напачатку не ў той бок з метро выйшлі, пасля не ў тыя дзверы гатэльнай рэстарацыі зайшлі (а што, шыльда „Сёмае неба" свяцілася і там). Падняліся на сёмы паверх, пабачылі тупік і страшныя чорныя крэслы, спусціліся, зайшлі ў другі ўваход. Карацей, усё як звычайна. Прагучала шмат цікавых успамінаў. А Віктар успомніў, як Анатоль Сыс дапамагаў заносіць у нашу кватэру купленыя кніжныя шафы — адмовіўся ад грошай, папрасіў бутэльку, толькі «Людцы не кажы», то-бок мне. Мне не падабалася, калі напіваліся. Віцяа даў бутэльку кубінскага рому, а яна па дарозе ў Анатоля разбілася. А шафы стаяць дасюль».

**Алесь АРКУШ**: «Сёння, 26 кастрычніка, Анатолю Сысу споўнілася б 60 гадоў. А ўжо з 2005 года яго няма разам з намі. Неяк Анатоль мне сказаў: «Алесь, ты не забывай, я быў тваім настаўнікам». Так, быў. Прывёў мяне ў «Тутэйшыя». І паспрыяў выхаду майго першага зборніка вершаў у бібліятэчцы часопіса «Маладосць» (1988). Гэта быў нумар 5 бібліятэчкі. У самога Анатоля першы яго зборнік, які таксама выйшаў у бібліятэчцы, меў нумар 3. То-бок, мы з настаўнікам амаль разам дэбютавалі. Я ведаў Анатоля вось такім, як на здымку. Бо ў 1987 годзе з'ехаў на Палаччыну, і мы бачыліся зусім рэдка. І такім ён застаецца ў маёй памяці».

**Людміла ХЕЙДАРАВА**: «Гэта было даўно. Яшчэ пры адным Саюзе пісьменнікаў. Яшчэ быў нашым Дом літаратара і ўсё ў ім было размічанае на служэнне літаратурнай працы — бібліятэка, пакоі з літкансультантамі, канферэнц-зала, вялікая зала з вялікай сцэнай, дзе адбываліся творчыя вечары-падзеі, маленькая зала з камінам, дзе збіраліся прыхільнікі паэзіі або проста пагаманіць, пасядзець у бары. На тую пару зайшлі мы неяк з мужам у камінную залу, абрадаваліся Алесю Пісьмянкову. Разам з ім быў Анатоль Сыс, яшчэ нехта, не памятаю, бо мне трэба было дамовіцца з адным знакамітым пісьменнікам наконт запісу на ТБ, дзе я на той час працавала. Калі я вярнулася да маладых, з-пад маёй пакінутай на стале сумачкі віднелася нейкая паперка, падпісаная А.С.. Анатоля не было. Дакладней, ён з дальняга кута неяк бакавым зрокам час ад часу назіраў за мной. Не буду казаць, што было ў той цыдульцы, але я разгубілася. Праз колькі хвілін, на звароце той цыдулькі склаўся адказ. Калі Анатоль вярнуўся да нас, я паведаміла, што толькі што прыйшоў верш, які я прысвячаю Анатолю Сысу, і прачытала яго. Моладзь крыху сумелася. На той час параўнаць Анатоля Сыса з сонцам... Паэзія здольная бачыць тое, што мы яшчэ не ўсведамляем... *Дарога ў асенні верас — Мая. А твая ўся — з маю./ Ты ў лета прачыніш дзверы,/ Што я за сабой зачыняю. / Я міма прайду — не гляну. / Маіх бранзалетаў звонцы / Спяваюць за мяне асанну: /— Так не глядзяць на сонца...*».

**Віктар ШНІП:** «Назаўтра прачнуўся ад таго, што галава баліць, як пасля п'янкі. П'янка і павінна была быць, бо ўчора ўдзельнічаў у паэтычным свяце „Агмень", прысвечаным 60-годдзю з дня народзін Анатоля Сыса. Але п'янкі не было, бо без Сыса яе не магло і быць. Было свята паэзіі, на якое з Польшчы завіталі, каб сказаць добрыя словы пра Анатоля, Сяргей Кавалёў, Міра Лукша і Ганна Кандрацюк. Сяргей піша кнігу пра Сыса. Міра і Ганна распавялі пра вандроўкі ў Гарошкаў. З Веткі прыехалі Ларыса Раманава і Мікола Сцепаненка, які з жалем узгадаў мне: „Толік казаў, каб я не хадзіў за ім, а калі хаджу, дык каб усё запісваў, як Віцька Шніп. А я, дурны, нічога не запісваў...". Імпрэзу вёў Усевалад Сцебурака. У зале рэстарана „Сёмае неба" сабралася каля паўтары сотні чалавек. У асноўным тыя, хто ведаў асабіста Анатоля. Было крыху і моладзі. Людміла, якой я патэлефанаваў і расказаў, як знайсці „Сёмае неба", спазнілася на хвілін дваццаць. Усё пачалося з таго, што яна сустрэла Наталку Кучмель, з якой напачатку не ў той бок з метро выйшлі, пасля не ў тыя дзверы гатэльнай рэстарацыі зайшлі (шыльда „Сёмае неба" свяцілася і там). Падняліся на сёмы паверх, пабачылі тупік і страшныя чорныя крэслы, спусціліся, зайшлі ў другі ўваход. Словам, Сыс хацеў паблукаць з імі... Свята паэзіі „Агмень" распачаў музыка Сяргей Доўгушаў, які, па-мойму, падобны на Сыса. Лаканічна выступілі Барыс Пятровіч, Леанід Галубовіч, Міхась Скобла, Аксана Данільчык, Сяргей Сыс. Доўга не затрымліваліся каля мікрафона і барды Алесь Камоцкі, Алег Хаменка і Кася Камоцкая, якая ў размове са мной і Людмілай падзялілася планам правесці ў Мінску вечарыну святой памяці Тацяны Сапач і прапанавала нам выступіць. Мы не адмовіліся. Міхалу Бараноўскаму быў уручаны дыплом пераможцы конкурсу для маладых літаратараў „Экслібрыс" імя Анатоля Сыса. Думаю, што сам Сыс гэты выбар падтрымаў бы. У сваім выступленні я ўзгадаў, як мы з Анатолем пазнаёміліся ў снежні 1981 года ў Каралішчавічах на нарадзе маладых літаратараў, як потым Сыс служыў у войску і перапісваўся са мной, як, вярнуўшыся дамоў, ён прыехаў у Мінск і мы з ім тэлефанавалі Генадзю Бураўкіну, каб той узяў Анатоля на працу на тэлебачанне, як потым Сыс жыў у інтэрнаце і як мы з ім у адных трусах хадзілі на танцы... Не ўзгадаў, бо забыўся падчас выступлення ўзгадаць, як аднойчы ў годзе 1993 Анатоль прыйшоў да мяне на працу ў „Наша слова" ў навенькім гарнітуры, пад гальштукам, са скураным рудым партфелем і заявіў: „Я цяпер працую ў „Крыніцы" і я там загадваю паэзіяй. Цябе, Шніп, друкаваць не буду!" Сказаў і выйшаў з рэдакцыі, ляпнуўшы дзвярыма. Праз тыдзень Сыс зайшоў да мяне ўжо не ў гарнітуры і без партфеля: „Расслабся, Віцька! Мяне з „Крыніцы" выгналі!" Са свята паэзіі „Агмень" Анатоля Сыса з Людмілай вярнуліся, як з гасцей, на якое гаспадар запрасіў усіх, каго мог, але сам не прыйшоў, чым даў усім дазвол рабіць і гаварыць усё, што каму захочацца. І ўсё ж, думаю, Анатоль назіраў за намі і ўсміхаўся, і плакаў, і спрачаўся, і злаваўся, і радаваўся, і крычаў: „Вы застанецёся ў гісторыі беларускай літаратуры, бо я вам вершы прысвяціў!"».

Міра ЛУКША

# Ніхто не можа быць чарговым нумарам

Той, хто паглядзіць новы спектакль Іаанны Троц «Ніхто не можа быць чарговым нумарам», з агідай падумае пра фашызм. Да гэтага схіліць непапраўная гібель манашкі Марыі Скабцовай, замардаванай два дні да вызвалення канцлагера Равенсбрук. У канцлагер патрапіла за ратаванне яўрэяў. Да адважных рашэнняў натхніць яе спачуванне. Марыя Скабцова (1891-1945), сучасная святая Рускай Праваслаўнай Царквы, як ніхто, зведае жах адчужанасці і прыніжэння.

Жыццё гэтай незвычайнай жанчыны здаецца неверагодным, — піша а. Генрык Папроцкі. — Яна, прызнаная ў літаратурным свеце паэтэса, адкідае бляск багемнага жыцця, дапытвае ў свайго епіскапа, ці можа яна, маючы за сабой два няўдалыя сужонствы, стаць манашкай, ды не такой манашкай з манастыра, а такой, што будзе жыць сярод людзей і несці дапамогу дэградаваным людзям вуліцы. Для кансерватыўных прадстаўнікоў эміграцыі яе жыццё явілася адным вялікім скандалам або шаленствам (яны відавочна не чулі слоў Апостала Паўла «Мы шалёныя для Хрыста», 1 Кар. 1, 23). Гэтая цудоўная жанчына ва ўмовах эканамічнага крызісу і нястачы грошай арганізавала чатыры асяродкі дапамогі, у тым дом для састарэлых, дом для бяздомных сужонстваў ды сталоўку для беспрацоўных. Калі ў акупаванай Францыі пачаўся праслед яўрэяў, матушка Марыя рашылася ратаваць іх. Яна знаходзіла прытулак для бяздомных дзяцей, у якіх ужо вывезлі бацькоў у Аўшвіц. Ёй, манашцы, удалося прабіцца на зімовы веладром, дзе сагналі для вывазкі ў лагеры смерці яўрэяў, і выносіць адтуль у кублах на смецце дзяцей. А пасля, разам з настаяцелем дамавога храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы пры інтэрнаце на вул. Лурмель у Парыжы, айцом Дзмітрыем Клепініным, яны пачалі выдаваць сотні фальшывых пасведчанняў аб хрышчэнні. Усе арганізатары гэтай акцыі былі арыштаваны. І ўсе яны загінулі ў канцлагерах.



Фота Аляксандра Васілюка

Спектакль «Ніхто не можа быць чарговым нумарам» пачынаецца з дзікай перастрэлкі. Якраз ідзе бальшавіцкая рэвалюцыя. Паэтэсе Марыі Скабцовай, прадстаўніцы арыстакратыі, пашанцуе ўцячы з крывавага пекла. Яна яшчэ не ведае, што ў новай айчыне, Францыі, бежанцаў-расіян чакаюць нястачы і прыніжэнне. Каб выжыць, яны наймаюцца да самых простых работ за сабачыя грошы. Фрустрацыя спараджае стомленасць і паталогіі. Марыя Скабцова бачыць, колькі вартая паэзія ў дэградаваным свеце. Таму вяртаецца да вытокаў гуманнасці, да звычайных людскіх жэстаў — спачування. Яно дае натхненне і сілу змагацца за чалавечую годнасць. Для будучай святой спачуванне — сутнасць хрысціянства.

Для тых, хто бачыў біяграфічныя спектаклі Іаанны Троц — пра Яраслава Кастыцэвіча ці а. Канстанціна Байко, не будзе вялікага здзіўлення ці адкрыцця. Паасобныя фрагменты біяграфіі па чарзе іграюць самавітыя дзяўчаты і хлопцы. У іх складаны выклік. Яны праз паасобныя сцэны іграюць яшчэ настрой і атмасферу парыжскай вуліцы Лурмель. Хвіліны адчайнага болю паказваюць пад выглядам набрынялай цішыні. Тое, што бязмежна захапляе ў спектаклі — гэта наўсцяж «святая» музычная ілюстрацыя. Класічныя царкоўныя кампазіцыі акцёры-аматары выконваюць з глыбокім адчуваннем і знаёмствам. Яшчэ па сёння ў маіх вушах гучаць сольныя партыі ў выкананні Эвы Іванюк ці Янкі Конюха. Вобразы і настрой спектакля дапаўняюць мультымедыі Якуба Собчака. Пастаноўка з удзелам вядомай у беларускім асяроддзі моладзі — Дамінікі Пуц, Пятра Свідэрскага, Патрыцыі Нічыпарук, Эвы Іванюк, Марысі Тарасюк, Янкі Конюха, Лукаша Лісоўскага, Агаты Усціновіч, Рафала Здановіча, Дарыі Лукянчук, Эвы Лукянюк — новы праект Фонду «Oikonomos».

Сцэнарый на аснове кніжкі Сяргея Гакеля «Маці Марыя (1891-1945)» належыць Іаанне Троц, заадно рэжысёрцы пастаноўкі. Спектакль «Ніхто не можа быць чарговым нумарам» на польскай мове. Дзеля гэтага паслужыў польскі пераклад згаданага ўжо а. Генрыка Папроцкага, які знакаміта справіўся не толькі з біяграфічнай прозай, але і з паэтычнымі радкамі святой, прыведзеных у біяграфіі:

*Są dwa sposoby życia:*
*można zgodnie z prawami godnie chodzić*
*po lądzie — mierzyć, ważyć, przewidywać.*
*Ale można chodzić po wodach.*
*Ale wtedy nie można przewidywać,*
*wtedy cały czas trzeba wierzyć.*
*Chwila niewiary — i zaczynasz tonąć".*

Спектакль, як абяцаюць яго творцы, гэта расказ пра спробы хаджэння па вадзе. Гэта расказ пра бязмежную і бескампрамісную любоў, якая пераможа нават у часы вялікага падзення чалавека...

Словам, найлепшая прапанова на сёння!

Артыкул узнік пад уплывам спектакля-прэм'еры, якую я пабачыла 6 лістапада г.г. у Падляшскай оперы і філармоніі. Спектакль неўзабаве пакажуць у Варшаве, у планах таксама паездка ў Парыж.

❖ Ганна **КАНДРАЦЮК**



Друкаваныя кнігі па-ранейшаму выклікаюць цікаўнасць у сучасных людзей. Разам з тым цяпер у іх з'явіўся моцны канкурэнт, і гэты канкурэнт — электронныя кнігі. Яны ўсё больш і больш набываюць папулярнасць, асабліва калі гэта тычыцца звычайнай белетрыстыкі. Зразумела, што не ўсё варта пераводзіць у той фармат, які адпавядае электроннай кніжцы, але гэтая тэндэнцыя ўзмацняецца.

Адным з падвідаў электронных кніг варта лічыць аўдыякнігі, якіх не трэба чытаць вачыма, а толькі слухаць вушамі. Гэта даволі зручна, бо дазваляе заняць сябе яшчэ нейкай справай.

Пэўны час таму Міністэрства інфармацыі беларускай краіны выклала ў адкрыты доступ больш за сотні аўдыякніг на беларускай мове. Аднак, як сведчыць вэб-дызайнер Аляксей Чаранкевіч, нягледзячы на высокую якасць запісу і вартасць гэтых файлаў, аўдыякнігі, на жаль, былі апублікаваны папкай на Google Drive. Гэта значыць, што такую спасылку немагчыма запомніць і папку не праіндэксуюць пошукавыя сэрвісы.

Чаранкевіч паспрабаваў звярнуць увагу чыноўнікаў на недахопы, але з гэтага нічога не атрымалася. У выніку ён вырашыў сам выправіць сітуацыю, стварыўшы адпаведны сайт. Так узнікла „Беларуская літаратура ў аўдыякнігах" ці, як назваў свой сайт яго стваральнік — партызанскі навігатар па аўдыякнігах, знойдзеных у Байнэце. Месціцца дадзены партал па адрасе **http://lit.letapis.by**.

„Акрамя запісаў Міністэрства інфармацыі мы дадалі спасылкі на аўдыякнігі з knihi.by і Радыё «Свабода». Спіс будзе папаўняцца. Дарэчы, мы не захоўваем у сябе файлы і не парушаем нічыіх правоў. Але праз гэта наш сайт не можа прапанаваць паўнавартасныя аўдыякнігі з адмысловым афармленнем", — распавядаецца на галоўнай старонцы новага сайта. На ёй жа карыстальнік можа пабачыць некаторыя спасылкі з назвамі кніг, якія вядуць да вышэйзгаданай папкі. Сярод іх „Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча, „Сэрца на далоні" Івана Шамякіна, „Новая зямля" Якуба Коласа, „Пінская шляхта" Дуніна-Марцінкевіча, „Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага і шмат іншых агучаных кніг. Поўны спіс аўтараў аўдыякніг, да якіх можна трапіць праз дадзены сайт, знаходзіцца таксама на галоўнай старонцы ў самым нізе. Зараз, паводле Чаранкевіча, там каля 180 аўдыяверсій розных твораў.

„У адрозненні ад звычайных аўдыязапісаў, кнігі зручней слухаць у спецыяльных аплікацыях: яны памятаюць, дзе вы скончылі слухаць у папярэдні раз, а некаторыя з іх дазваляюць рабіць закладкі. На Android можна карыстацца Voice Audiobook Player ці Smart AudioBook Player. На iOS — Books (неабходны m4b-файл можна скампіляваць самастойна праз Audiobook Binder for Mac) ці, напрыклад, BookPlayer", — раіць распрацоўшчык „партызанскага" сайта.

Варта адзначыць, што гэта не першы праект Чаранкевіча, які спрыяе распаўсюду беларускага слова і папулярызацыі беларускай гісторыі. Раней, дзякуючы яму, у сусветным павуцінні з'явілася мапа станаўлення Беларусі, пра што „Ніва" пісала ў снежні 2017 года, постар «Гісторыя Беларусі», а таксама «Шэсцьдзясят беларускамоўных хітоў сучаснасці» — сумесны праект з TuzinFM, па якім быў складзены спіс галоўных беларускамоўных песень за апошнія 30 гадоў. Усе яны аб'яднаны праектам „Летапіс", пра які пісала „Ніва" ў красавіку.

❖ Аляксандр **ЯКІМЮК**



Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

## 225 гадоў з дня нараджэння Міхала РУКЕВІЧА

Удзельнік вызвольнага руху, філамат Міхал Рукевіч нарадзіўся 12 лістапада 1794 г. у мясцовасці Гожна, што, як мяркуецца, была на Беласточчыне. Праўда, даследнікі яго біяграфіі прыводзяць і версію іншага года нараджэння — 1796. У кожным разе гэтая асоба вартая згадкі і ўшанавання.

Паходзіў Міхал Рукевіч са шляхецкай сям'і. Меў у Беластоку дом у супольным валоданні з сёстрамі. У 1812 г. служыў у Першым палку гвардыі Красінскага. Васямнаццацігадовым юнаком, спадзеючыся на аднаўленне незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, ваяваў пад штандарамі з Пагоняй у гэтак званых „літоўскіх войсках" Напалеона, дзе служыла 25 тысяч нашых суайчыннікаў. Вярнуўшыся з палону, куды Міхал трапіў у Францыі, ён вучыўся ў Віленскім універсітэце. Удзельнічаў у таемным патрыятычным таварыстве філаматаў, ствараў з аднадумцамі яго філіі — таварыствы прамяністых і філарэтаў, а потым падпольную арганізацыю „Згодных братоў" („Заранаў"), сябры якой, навучэнцы Беластоцкай і Свіслацкай гімназій, марылі пра вызваленне радзімы ад расейскага прыгнёту.

У 1920 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт са ступенню кандыдата юрыспрудэнцыі. З біяграфіі Міхала Рукевіча вядома, што ён на пачатку 1820-х гг. жыў у Мількаўшчыне (з гэтай мясцовасцю ў сённяшнім Гарадзенскім раёне звязана асоба пісьменніцы Элізы Ажэшкі, там быў яе фальварак). У лістападзе 1823 г. Рукевіча арыштавалі па справе аб таемных таварыствах у Віленскім універсітэце, але вызвалілі з-за недаказанасці віны 30 студзеня 1824 г.

У 1825 г. частка „заранаў" увайшла ў склад узніклага з ініцыятывы Рукевіча (які жыў пад Беластокам у вёсцы Завыкі) рэвалюцыйнага таварыства „Ваенных сябры". Ужо сама назва сведчыла, што тут месца ранейшых летуценняў занялі канкрэтныя і небяспечныя для ўлад справы. Арганізацыя складалася з мясцовых чыноўнікаў, гімназістаў, шляхціцаў, а найперш з афіцэраў і нават жаўнераў размешчанага на Гарадзеншчыне і Беласточчыне „Літоўскага асобнага корпусу" царскай арміі. У ліку кіраўнікоў „Ваенных сяброў" быў капітан Канстанцін Ігельстром, які трымаў сувязь з расейскім дзекабрыстам Вільгельмам Кюхельбекерам. Рукевіч быў галоўным натхняльнікам „Літоўскага пянернага батальёна выступлення 1825". У сваіх лістах да паплечнікаў Міхал Рукевіч часта пісаў пра знаёмых, што любяць забавы і танцы пад добрую музыку. У перакладзе з канспіратыўнай мовы гэта былі ўдзельнікі таварыства. Такіх „танцораў" набралася нямала — каля пяцідзесяці.

Праз дзесяць дзён пасля паўстання дзекабрыстаў у Пецярбургу „Ваенныя сябры" сарвалі прысягу цару Мікалаю І у сапёрным батальёне, дзе адной з рот камандаваў Ігельстром. На большае сіл не было. Рукевіч сярод іншых быў арыштаваны 15 студзеня 1826 г., знаходзіўся ў Беластоку пад следствам. Ваенным судом прызнаны вінаватым і засуджаны да смяротнага пакарання. Аднак, паводле царскай канфірмацыі ў красавіку 1827 г. яно было заменена на 10 гадоў катаргі ў Сібіры з пакіданнем на пасяленні. Рукевіча таксама пазбавілі шляхецкіх правоў. Катаргу адбываў разам з дзекабрыстамі ў Чыце, а з 1830 г. — на сумнавядомым Пятроўскім заводзе ў Забайкаллі. У 1833 г. пераведзены на пасяленне ў вёску Коркіна Іркуцкай губерні. Меў грамадзянскую жонку — мясцовую жыхарку Елізавету Ісакаву. У іх нарадзіліся дзве дачкі. На радзіму Міхал Рукевіч ужо не вярнуўся. Памёр ён на чужыне 11 верасня 1841 г.

❖ Уладзімір **ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

# У «Васілёчкаў» 55-гадовая гісторыя

— Калі мы ў рэпертуар хору ўключылі танцы, для калектываў на Беласточчыне была гэта навізна. Зараз да большасці песень далучаем фрагменты народных танцаў, якія спецыяльна для нашага хору распрацоўвае Людміла Фадзіна. Гэта робіць нашы выступы больш цікавымі і прывабнымі.

**— Вы многа разоў выязджалі на выступы ў Беларусь.**

— Наш хор многа разоў выступаў, між іншым, у Мінску, Віцебску, Гродне, Маладзечне, Смаргоні і меншых мясцовасцях.

**— Важнай часткай рэпертуару хору з'яўляецца прэзентацыя беларускіх абрадаў. Ведаю, што Вы самі пішаце сцэнарыі і займаецеся рэжысурай абрадавых пастановак.**

— Я апісала абрады на аснове расказаў Валянціны Марціновіч з Краснага Сяла і Веры Нічыпарук з Малліннік. Да ўсіх абрадаў я саставіла сцэнарыі, напісала выказванні для выступаючых у абрадавых пастаноўках харыстаў. Прыдумвала жарты, дыялогі і ўсё састаўляла ў цэлы абрад, а дапамагалі мне харысты, якія памяталі абрады са сваёй маладосці. Пазней з хору я вылучыла дзве абрадавыя групы і для іх пісала сцэнарыі. Кіраўніком другой групы стала Юлія Міранчук. Паказалі мы «Квашанне капусты», «Вяселле», «Пераховіны», «Сваты», «Прыданне», «Хрысціны», «Юрья», «Благавешчанне» і іншыя абрады. У час «Спасаўскіх запустаў» прэзентавалі мы ў бельскім амфітэатры «Сенакос», «Жніво», «Перапяліцу», якія паказвалі таксама ў іншых мясцовасцях. На калядных аглядах спяваем калядкі.

**— «Васілёчкі» займалі прызавыя месцы на фестывалі «Беларуская песня» і іншых конкурсах. Выказаных было многа пахвальных слоў пасля вашых шматлікіх выступаў. Вашаму хору і харыстам былі прысвоеныя медалі і адзнакі.**

— «Васілёчкі» калектыўна і харысты персанальна атрымалі ад прэзідэнта РП Залаты, Сярэбраны і Бронзавы крыжы заслугі, адзнакі міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП «Заслужаны для польскай культуры» і ганаровыя граматы міністра культуры Рэспублікі Беларусь. Былі таксама іншыя ўзнагароды. Хор дзейнічае пры Бельскім доме культуры, які ў сувязі з юбілеем выступіў з прапановамі ўзнагарод для нас. Пэўна атрымаем іх, але яшчэ не ведаю якія. Мне вельмі важна, каб кожны харыст атрымаў ганаровую грамату з падзякай за мастацкую дзейнасць.

**— 23 лістапада госці будуць віншаваць Вас з юбілеем. Калі б маглі здзейсніцца тры пажаданні, чаго хацелі б Вы для «Васілёчкаў»?**

— Перш за ўсё харыстам патрэбнае моцнае здароўе, бо без яго не будзе і калектыву. Добра было б, каб маглі мы выступаць на многіх канцэртах. Канешне, хацелася б, каб больш маладых асоб хацела займацца і выступаць з намі на сцэне.

**— Дзякую за размову і жадаю здзяйснення выказаных Вамі спадзяванняў.**

Гутарыў **Аляксей МАРОЗ**

## Кузаўскі ўспамін (6)

Кузаву ад Чаромхі-Станцы раздзяляе рэчка Нурэц. Даўней са станцыі ішлося побач вузкакалейкі ў Глупень, затым праз драўляны мосцік і прасёлкавай дарогай проста ў вёску. Зараз вырысоўваецца мінулае. Родны краявід.

Летам, ад рэчкі па Карпінскага хваінку, паабапал дарогі красаваліся нівы жыта і жоўтага лубіну. З правага боку дарогі, сярод пасяўнога поля парастала купіна хваіны, з левага, бліжэй рэчкі — шырокая паласа альховага пералеску. У цяньку гаю скрывалася адзінокая хатка. Пражывала ў ёй сваячка Уладзіміра Карпінскага. У 1939 годзе перасялілася яна ў Савецкі Саюз. Пасля кватаравала там сям'я Юзіка Рыдля. У Карпінскага хваінцы было шмат грыбоў. У дашкольным узросце запускаўся я туды на грыбы.

У ліпені 1944 года пад Кузавай праходзіў жорсткі бой. Танкавая часць савецкіх войск, якая спынілася ў ляску Верасок, не магла праправіцца ў Чаромху. Немцы ставілі моцную гарматную запору. Адной танкетцы ўдалося праскочыць у купіну сасняку. Там машыну спасціг гарматны снарад. Як пазней выявілася, у ляску пад Кузавай загінуў Міхаіл Купрыяновіч Чупілка, якому за ваенныя подзвігі пасмяротна прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза. Пахаваны быў у прыдарожнай магіле непадалёк Верас履ка. Пасля вайны астанкі героя перавезлі на брацкія могілкі Савецкай Арміі ў Мілейчычах. У тым жа месцы, дзе была разбіта танкетка Чупілкі, здарылася чарговае няшчасце. Трое падлеткаў задумала разабраць снарад. Боегалоўка ўзарвалася і трынаццацігадовыя хлапчукі загінулі. Кавалкі вопраткі і цел раскінуты былі па полі і сумежных дрэвах.

Кузаўская вуліца пачыналася ад «смужкі» з-за сядзібы Рыгора Раманчука. Паколькі ад рэчкі па Карпінскага хваінку пралягала пясчаная дарога, дык у далінцы, перад сялом пачынаўся багонны адрэзак, парослы алешынай, з якога выцякала вада. Кузаўцы назвалі гэтае месца «смужкай». Ручаёк за агародамі пашыраўся і замяняўся ў брод, затым уліваўся ў рэчку Нурэц. У сяле не было бруку. У час веснавога разводдзя і дажджавога надвор'я на вуліцы стаялі баюры вады і гразкага балота. Найбольшыя баюры знаходзіліся каля сядзіб Яна Рэпкі і Пятра Саўчука. Другая такая топель знаходзілася ў «багонці» пасярэдзіне сяла. Кузаўцам і ў думцы не было добраўпарадкаваць сельскую вуліцу. Ідэя паступіла з павета. У 1960 годзе я працаваў у Гайнаўскай гарадской радзе. Аднойчы патэлефанаваў мне кіраўнік Павятовага аддзела камунікацыі Антасюк ды сказаў:

— Спадар Сідарук, можа б арганізавалі б у вас мадэрнізацыю вясковай вуліцы на грамадскіх пачатках? Транспартам мы забяспечым. Рабочая сіла ваша.

Прапанову я прад'явіў солтысу Пятру Саўчуку. І рашылі мы так. Зрабілі спісак жыхароў вёскі і наведалі кожнага гаспадара паасобку. Пачалі з першага нумара дома.

— У нядзелю арганізуем грамадскі пачын. Будзем будаваць вуліцу. Патрэбна рабочая сіла. Выйдзеце на работу?

— Чаму не. Памагу.

— Дык падпішыце.

— Я першы? — недаверліва запытаў гаспадар.

— Ад вас пачынаем.

Распісаўся. Ніхто не адказаўся.

У назначаны дзень заехалі чатыры трактары «Урсус». Жужаль дамовіліся браць ад чыгуначнікаў з паравознага дэпо. Сяляне працавалі з вялікай ахвотай. Хто выйшаў з рыдлёўкай, хто з граблямі. Палову вуліцы засыпалі шлакам у адзін дзень, другую палову — у чарговую нядзелю. Так змяніла абліча кузаўская вуліца перш-наперш у палове 1960 года. Жыхары былі задаволены. Мне выпала на долю атрымаць ганаровую грамату за арганізацыю грамадскага пачыну ад Павятовага аддзела камунікацыі ў Гайнаўцы.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# 17.11 — 23.11

**(22.03. — 20.04.)** Ажыццявіш свае ідэі. Інстынкт цябе не падвядзе! 18-22.11. — гучныя спрэчкі з партнёрам. 22-24.11. слёзы хвалявання і радасці. Не заломлівай рук, мусіш знайсці выхад. З 21.11. (да 27.11.) можаш натрапіць на цікавую прапанову працы, спалучаную з абучэннем. Пасля 19.11. панізіцца твой імунітэт, схадзі да добрага лекара.

**(21.04. — 21.05.)** Пасля 20.11. прапанова выезду з абучэннем. З 22.11. будзеш цешыцца павышэннем. Будзеш крыху сварлівы. Цяжка будзе з кампрамісам, таму не плануй ніякіх негацыяцый. Грошы будуць, але хутчэй на паперы. Вельмі ўражлівы цяпер твой стрававальны шлях — пільнуйся з ежай. Абавязкова схадзі да лекара, хоць табе здаецца, што «само пяройдзе».

**(22.05. — 22.06.)** Пасля 20.11. на тваім рахунку можа паявіцца мілая неспадзяванка. 22-24.11. твае пачыны набяруць віднасці і размаху. Спраўнасць розуму, інтэлігентнасць і проста геніяльныя задумы могуць памагчы ўзабрацца табе на пару прыступак вышэй у жыцці. З 17.11. пагрозы для твайго здароўя. Не гуляй небяспечна, бо цяжка ўсё будзе гаіцца. Не памылі дозы лякарстваў.

**(23.06. — 23.07.)** Лепш цяпер не шукай яшчэ сваёй палавінкі. Ад 19.11. поспехі ў навуцы. З 19.11. не прымяняй ніякіх цуд-дыетаў, бо хутка пасля папаўнееш. 24.11. цяжкі настрой хутка міне. Файныя і займальныя сустрэчы з раднёй і сябрамі. 18-20.11. запісвай тэрміны, не спазніся. 22-24.11. прачнуцца беспадстаўныя неспакоі. Выкінь з лядоўні папсаваныя прадукты. Можаш схадзіць да лекара-натураліста ці біяэнергатэрапеўта.

**(24.07. — 23.08.)** З 21.11. можа табе здавацца, што ты адзін супраць усіх. Пасля 22.11. пераканаешся, як добра стаяць твае акцыі ў фірме. Мілая кампанія сяброў паможа забыць табе на ўсе клопаты і паразы. Крыху нуднавата ў сям'і (манатоннасць паслабляе сувязі). Не гуляй у дыктатара з партнёрам. Лепшыя грошы за ўзорную працу. Не шалей на вуліцы! Пільнуйся з ежай, цяпер можна паўнець нават ад вады

**(24.08. — 23.09.)** Ад 20.11. лягчэй табе будзе засяродзіцца. З 22.11. добры момант на заснаванне суполкі, падпісанне кантрактаў, наладжванне бізнесавых кантактаў. Захопіш усіх сваімі ведамі, будзеш ззяць у атачэнні. Будзеш улюбёнцам знаёмых і душой кампаніі. 17-21.11. лепш трымай язык за зубамі. З 22.11. кіраванне мроямі і жаданнямі можа цябе моцна расчараваць. Няхай цябе не турбуе незадавальненне і чорнае бачанне будучыні.

**(24.09. — 23.10.)** Да 20.11. будзеш мець нагоды зрабіць усё па-свойму. Будзь адкрытым на новыя магчымасці, бо лёс нясе табе новыя шанцы. З 21.11. будзеш лішне пабуджаны, і пераявлічыш шмат праблем. Будзеш прагны, не папаўней. З 22.11. будзеш ведаць, на што ставіць. Калі займаешся спортам, пачнуцца ў цябе поспехі. А калі яшчэ не — варта пачаць, хаця б ад першага кіламетра.

**(24.10. — 22.11.)** З 21.11. (да 26.11.) можаш зрабіць дасканалы інтарэс. У пары, калі былі перашкоды, пасля 18.11. усё пойдзе цудоўна. Лепш у фірме, асабліва калі гэта твой бізнес. З 22.11. (да 26.11.) час на інвестыцыі з мараў! Не зрывайся на работу без сняданку! Варта зрабіць кантрольныя абследаванні здароўя.

**(23.11. — 22.12.)** З 22.11. (да 26.11.) цудоўныя гарачыя хвіліны ў пары. Можаш пасля 18.11. рушыць з капыта ўперад. Добры момант з 22.11. на заручыны ці шлюб. Можаш набыць штосьці танней у «групоне» ў інтэрнэце, нават напрыклад купіць білет на самалёт. Адпачывай, добра высыпайся — цікуе прастуда. Стралец з апошніх дзён знака — пільнуйся, каб не папаўнець!

**(23.12. — 20.01.)** 18-19.11. не папраўляй таго, што дзейнічае выдатна. Паявіцца шанц павышэння, большай зарплаты або нават новай працы. Нічога не купляй дарагога, не засноўвай пакуль уласнага бізнесу (да 26.11.) Дробныя праблемы са здароўем з-за ўласнай заслугі, трэба будзе сесці на дыету або змяніць стыль жыцця. Ежу прыпраўляй травамі.

**(21.01. — 19.02.)** Не дай сабе падкрасці ідэй. Сачы за навінкамі ў тэхніцы, навуцы, вывучай мовы — неўзабаве гэта будзе твой козыр. Папрасі шэфа новыя заданні (паціху, бо гэта можа выклікаць зайздрасць завіснікаў); ды не насі носа ўгору. Не кіруйся стэрэатыпамі. Бяры справы якімі яны ёсць і нічога не змяняй сілай. Уласную дзейнасць спалучы з працай у калектыве. З 21.11. (да 27.11.) не рабі іншым на злосць, са шкодай для сябе.

**(20.02. — 21.03.)** З 19.11. знакаміты момант раскрунуць кар'еру. Пасля 20.11. найлепшыя лады ў кар'еры, можаш зрэалізаваць свае планы, дасягнеш мураваных вынікаў, маеш шанцы на павышэнне. Але не хваліся гэтым, бо будзе гэта калоць завіснікам у вочы. Чалавечая зайздрасць можа прынесці шмат шкоды! Але ў пары можаце апынуцца на павароце. У пачуццях з 22.11. пераканаешся, як вельмі моцна кахаеш. Рыбы з другой дэкады — паспрабуйце народнай медыцыны.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. упрыгожанне, 2. частка плоскасці, пляц, 3. шашачная фігура, 4. айчына дзюдо, 5. участак зямлі для вырошчвання гароднiны, 6. лексічная адзінка, 7. горад на абочыне Белавежскай пушчы, 8. муж царыцы, 9. тайландскі курорт на Андаманскім моры, 10. савецкая эканамічная палітыка пачатку 1920-х гадоў, 11. цягнецца за іголкай, 12. старажытнагрэчаскі матэматык, „бацька" геаметрыі, 13. гмінная мясцовасць на Арлянцы, 14. старажытнаіндыйскі эпас пра Раму.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | | | 2 | | | |
| | 3 | | | | | 4 | | | | 5 | | | 6 | 7 |
| | | | | | 8 | | | | 9 | | | | | |
| | | | | | 10 | 11 | | | | | | | | |
| | | 12 | 13 | | 14 | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Балхаш, звер, пешка, Буг, дыван, мода, буйвал, рэйд, Шыбенік, какаду.

Рашэнне: **Хлеб еш дый другому не шкадуй**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# „Zdjęcie z koniem. Reportaże z Gródka i okolic”

Можа, пачну так.

* * *

Пусты стары сад квітнее пад раніцу,
Дзеці пчол,
Лётаюць як даўней іх бацькі,
Сонца пачынае свяціць,
Становіцца цяплей,
Хоць у ім больш няма людзей,
Што пасадзілі гэтыя дрэвы,
І тых, хто паліваў іх,
Калі не было дажджу,
Каб унукі мелі плён іхняй працы,
Папяроўкі, каштэлі, антонаўкі,
Адно дрэва шэрай рэнеты,
Плады антонаўкі кіславатыя,
Не ўсім гэта падабаецца,
Яны становяцца больш далікатнымі і смачнымі,
Калі адлежацца на холадзе,
Падыходзяць яны для шарлоткі і кампотаў,
Можна іх таксама сушыць на зіму,
Калісь яны заўжды раслі ў сялянскіх садах,
Устойлівыя яны да маразоў, хвароб і шкоднікаў,
А я сяджу на плоце,
І гляджу на іх кветкі.


Izba Lekarska Warszawsko-Białostocka


Дарота Сульжык

Я ведаю Гарадок і яго ваколіцы. Я ж родам з гэтай зямлі. Як і іншыя, якія жылі тут і якіх апісала Дарота Сульжык у сваёй кнізе з аранжавымі вокладкамі і са здымкам дзедкі, стаяўшага з канём. Мне толькі здавалася, што ведаю Гарадок!

Менавіта ў Гарадку 19 кастрычніка 2019 года адбылася прамоцыя яе кнігі п.з. «Zdjęcie z koniem. Reportaże z Gródka i okolic». Гэта зборнік з 16 рэпартажаў з Гарадка, яго ваколіц і іншых месцаў Падляшша. Рэпартажы былі створаны ў 1992-2015 гадах і друкаваліся ў «Часопісе».

На вокладцы згаданай кнігі змешчана фота дзеда Дароты — Мікалая Кузьміча. Як я даведаўся ад бацькі Дароты, які быў на прамоцыі кнігі, яе дзед быў хросным бацькам майго бацькі, таксама Мікалая.

Не так даўно я прачытаў кнігу Монікі Шнайдэрман «Pusty las». Я таксама быў на яе аўтарскай сустрэчы. Аўтарка часта кажа, што «жывучы, мы займаем месца тых, хто быў перад намі, гэта адвакочная чарговасць спраў». З інфармацыі аб кніжцы на сайце выдавецтва «Czarne» можам прачытаць: «Пусты лес» гэта аповед аўтаркі пра Валавец, бэскідскую вёску, з якой па чарзе знікалі шукаючыя шчасця за акіянам беднякі, візіянерскія нафтавікі, яўрэі, цыганы і лэмкі. Гэта таксама даніна павагі да гэтага месца на зямлі, яго гісторыі, прыроды і яе жыхароў».

Доўгі час хадзіла за мною тэма ***«Пустога, старога саду»***. На самой справе нават вельмі доўга. Такія «пустыя сады» заўсёды былі побач са мной. На вуліцы Крывой у Гарадку. Адзін «Пусты сад» — пусты, бо без гаспадара, быў побач, адразу за агароджай. Другі таксама недалёка, за ліпай побач з домам... На жаль, гэта былі сады, уладальнікаў якіх я не ведаў. Думаю, што гэта рэшткі садоў, пасаджаных да Другой сусветнай вайны. Іх уладальнікаў вывезлі ў лістападзе 1942 года, пасля ліквідацыі гарадоцкага гета і вывазцы людзей у Трэблінку.

«Сярод габрэйскіх жыхароў Гарадка міжваеннага перыяду згадваліся, між іншым, уладальнікі крамаў — Братмахеры, Сымаховічы, Файзбергі, краўцы — Фідэль, Крамер, Зігель, Гарбер, хлебапёкі — сямейства Шварцаў і Любавічаў, мяснікі — Абрагам Брунстайн, Пружанскі, якія раздавалі мяса па дамах з рытуальнага забою, рымар Фрэдман, вытворца мыла Рочык, гандляр скурай Зеляковіч, шаўцы — Мардэцкі, Едвах, Кагаж, вытворца газаванай вады Мацэф, гандляр збожжам Фішэлевіч, майстра гадзіннікаў Файнзільберг, слесар Гаіт, цырульнікі — Абрамскі, Новіньскі і крамнікі — Фейдэльман, Каган, Карп і іншыя [у: *Żydzi w Gródku*, „Wiadomości Gródeckie”, 1996, nr 3, s. 6; тэкст артыкула — фрагмент успамінаў Хаі Файгель-Бекеровіч-Брэскай, апублікаваных у Ізраілі ў 1963 г. у *Кнізе памяці гміны Гарадок каля Беластока* пад рэдакцыяй М. Сіміёна (пераклад А. Бялецкага, рэдакцыя М. Пракапюк, Ю. Хмялеўскі)].

Да каго з іх належалі тыя пладовыя дрэвы? Хто іх пасадзіў і паліваў? Мы не будзем ведаць. Падчас Другой сусветнай вайны габрэйскі свет Гарадка быў цалкам знішчаны. Я ўжо толькі рваў іхнія яблыкі!

Дарота ў сваіх рэпартажах размаўляе з людзьмі, жыхарамі Гарадка. Яна размаўляе з імі пра гісторыю і сучаснасць. Менавіта з яе рэпартажаў я даведаўся пра доктара Льва Цукермана. «Таблічка 25 х 20 сантыметраў. З ліставога металу. Добрага, эмаляванага. У даволі добрым стане. Аркуш злёгку сагнуты, па краях дзе-нідзе пражавелы. На белым фоне сіні надпіс: ***Dr. med. LEW CUKIERMAN lekarz.***

Кніга Дароты таксама такая даніна памяці гэтаму месцу на зямлі. Для тых людзей, якія жылі і жывуць тут. Добра, што яна паспела размаўляць з некаторымі з іх (часта па-беларуску) пра Гарадок да вайны і пасля вайны. Тут ёсць героі з плоці і крыві, і месца, дзе яны жывуць. Бабуля, дзед, заводчыкі коней, жыхары памежных вёсак, шаптухі, Міхалоўскія, галубнікі. Гэта яны — беларусы, палякі, габрэі і *тутэйшыя*. І многія іншыя, якія былі да нас альбо яшчэ знаходзяцца побач з намі. Увесь іх маленькі сусвет!

Дарота не хоча, каб гэтыя «нашы сады» былі пустымі. Сваёй кнігай паказала нам Гарадок і яго ваколіцы, Падляшша. А, можа, яна нам паказала больш? Яна на самой справе праявіла чалавечнасць. Яна паказала той добры бок, што варта быць добрым. Яна паказала нам, што варта памятаць. Яна паказала той больш светлы бок нашага існавання ў гэтым «слёзным старонні». Ці будзе гэта вялікі горад, ці малая мясцовасць, як напісаў Ігнат Карповіч, на канцы нічога. А можа ў пачатку ўсяго? Я думаю, што яна хацела паказаць, як усё пачынаецца. Не толькі як пачынаецца, але і як доўжыцца. Дарота кажа, што больш не будзе пісаць, што на гэта не мае часу. Гэта, верагодна, будзе стратай не толькі для Дароты, ці для мяне асабіста, для Гарадка ці Гарадоцкай зямлі. Я думаю, што гэта была б страта для ўсіх нас. Магчыма, што і для чалавецтва.

Дарота Сульжык — жыхарка зямлі, гэтай падляшскай зямлі. І часам я зайздрошчу Дароце лёгкасці напісання, мабыць, не толькі пісання, але і лёгкасці пагляду, што бачыць гэтых людзей. Цяпер я змагу ўбачыць яе герояў і гэтых герояў, пра якіх ніхто нічога не пісаў і ніколі не напіша. І герояў з «Пустога лесу» Монікі Шнайдэрман.

Давайце будзем пісаць, пісаць пра людзей, каб не застаўся пасля нас **пусты лес, пустое поле** ці **пусты сад.**

*Кнігу выдала Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі пры фінансавай падтрымцы Гарадоцкай гміны.*

**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**

## ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ 2019




***Дарагія Суродзічы Беларусы!***

Як і кожны год у гэты восеньскі месяц, Беларусы з удзячнасьцю прыпамінаюць і аддаюць чэсьць сваім слаўным Случчаком, якія пайшлі змагацца пад бел-чырвона-белым сьцягам за сваю зямельку. Пайшлі ўміраць каб жыла Беларусь!

У гэтым годзе — таксама ў лістападзе — адбудзецца ў Вільні перапахаваньне Кастуся Каліноўскага і іншых герояў Паўстаньня 1863-1864 г. ў Беларусі. Дасюль ляжалі іх замардаваныя парэшткі у агульнай непазначанай яме на Замкавай Гары.

З нагоды перапахаваньня, адбудзецца ў Вільні вялікая ўрачыстасьць 22-га лістапада. Дарагія Суродзічы, прашу ўсіх Вас далучыцца думкамі да гэтае падзеі. Прыпамінаю што пароль паўстанцаў быў:

**Каго любіш?**
**Люблю Беларусь!**
**Так узаемна!**

А вось што пісаў нам з-пад шыбеньніцы, засуджаны царскімі ўладамі на сьмерць, наш герой. Сёньня як ніколі хочу, каб Вы пачулі ягоныя словы любові да свае Бацькаўшчыны і свайго народу:

„Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеньніцы маскоўскай прыходзіць мне да Вас пісаці, і можа раз астатні! Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль зьгінуць за Тваю праўду. Прыймі народзе маё слова прадсьмертнае, бо яно, як з таго сьвета, толькі для дабра Твайго напісана!”

І канчае Яська, гаспадар з-пад Вільні, свой ліст усім нам ведамымі словамі: „Бо я Табе з-пад шыбеньніцы кажу Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над Табою Маскаля ўжо ня будзе”!

Словы гэтыя актуальныя па сёньня! Хаця дзяржава наша незалежная, кіруюць ёю яшчэ ўсё ворагі нашай свабоды. Дык памятайма „слова прадсьмертнае” нашага героя, дарагія Суродзічы, бо „толькі для дабра нашага яно напісана”!

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**Івонка Сурвілла**
Старшыня Рады БНР
Лістапад, 2019 г.

ISSN 0546-1960 46